© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Жыве Беларусь!

# ПАГОНЯ

Грамадзка-палітычная газэта

Заснавана ў 1920 г.

№ 8 25 верасьня — 7 кастрычніка 1992 г. Кошт 1 рубель.

✦ СУДОВАЯ СПРАВА № 10/9012

✦✦ ЛЕТА 1972: РАЗГОН МІРНАЙ ДЭМАНСТРАЦЫІ Ў ГОРАДНІ

✦✦✦ ДАПАМАЖЫЦЕ АЖАНІЦЦА З ЗАМЕЖНІЦАЙ!..

## ГОРАДНЯ ЧАКАЕ МІЖНАРОДНУЮ КАНФЭРЭНЦЫЮ

З 28 верасьня па 1 кастрычніка ў Горадні адбудзецца міжнародная канфэрэнцыя «Царква і культура народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі XIII — пачатак XX стст», у якой, акрамя навукоўцаў і прадстаўнікоў розных рэлігійных канфэсый нашай рэспублікі, прымуць удзел госьці з суседніх краін Польшчы, Летувы, Украіны і Расеі. Арганізавалі гэтую навуковую імпрэзу Беларускі дзяржаўны музэй гісторыі рэлігіі, аддзел культуры Гарадзенскага гарвыканкама, Гарадзенскі дзяржуніверсітэт імя Я. Купалы, Гарадзенская абласная краязнаўчая асацыяцыя. У рабоце канфэрэнцыі прымуць удзел міністр культуры РБ Яўген Вайтовіч, прэзідэнт міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адам Мальдзіс, прафэсар Лонданскага унівэрсітэта Джым Дзінглі, дырэктар Музэя Бібліі ў Маскве Архімандрыт Інакенцій (А. Прасьвірнін).

Дасьледчыкі, выкладчыкі, настаўнікі на працягу чатырох дзён атрымаюць надзвычай цікавую рознапланавую і вельмі неабходную сёньня інфармацыю аб гісторыі царквы ВкЛ і Беларусі, аб асьветніцкай, навуковай і грамадзкай дзейнасьці сьвятароў, пазнаёмяцца з новымі архіўнымі дакумэнтамі. «Царква і фармаваньне нацыянальных дзяржаў ва Усходняй Эўропе», «Царква, канфэсія і нацыянальная сьвядомасьць беларусаў», «Рэлігійныя матывы ў культуры права Вялікага княства Літоўскага (па матэрыялах Статута 1588 года)», «Уплыў царквы на этнамоўныя працэсы ў Беларусі»,— гэтыя і іншыя тэмы будуць абмяркоўвацца на трох сэкцыях у час правядзеньня канфэрэнцыі.

Вельмі важна, што ў такога некамэрцыйнага мерапрыемства знайшлося шмат спонсараў, сярод якіх Міністэрства культуры РБ, Гарадзенская абласная фэдэрацыя прафсаюзаў, культурнаасьветніцкі фонд «Бацькаўшчына», ВА «Азот», банкі Горадні, сумесныя і малыя прадпрыемствы нашага абласнога цэнтра.

С. ЛАЎНІК.

## З КРЫМІНАЛЬНАЙ ХРОНІКІ

**I. Сп. Сыраежка спрабаваў уцячы...**

Пад самую раніцу, напачатку шостай гадзіны на пульце ПЦО спрацаваў сігнал трывогі. Узброеныя міліцыянты накіраваліся да камэрцыйнай крамы «Ростані», што месьціцца на вуліцы Сьвярдлова, 4. На месцы яны агледзелі, што дзьверы крамы адчынены і ўнутры знаходзяцца людзі. Двое зь іх былі затрыманы адразу і, як высьветлілася, раней ужо былі судзімыя, да таго ж нідзе не працавалі.

Трэйці іх сябра, В. Сыраежка, кінуўся наўцёкі, ударыўшы пры гэтым аднаго з міліцыянтаў дзьвярыма. Яго спыніў толькі стрэл. Зараз В. Сыраежка знаходзіцца ў шпіталі з кулявой прастрэлінай у грудзях.

**II. А бацька ў шпіталі памёр**

Інвалід першай групы Т. Ярашэвіч, які стаяў на ўліку ў Гарадзенскім псіханэўралягічным дыспансэры, у момант сваркі са сваім бацькам нанёс яму глыбокае раненьне ў жывот. У шпіталі бацька памёр.

Сын пакінуў вёску Белічаны Гарадзенскага раёна, дзе адбылася трагэдыя, у невядомым кірунку. Узбуджана крымінальная справа.

**III. Спыніў голас Божы**

Як сьведчыць статыстыка, большасьць крадзяжоў адбываецца ўначы. На гэты раз злачынцы не пагрэбавалі каталіцкім храмам Сьвятога Вацлава, што ў Ваўкавыску. Сярод ночы сьпілаваўшы замок з касьцёла, злачынцы скралі два мэталічныя кубкі коштам 2,5 тысячы рублёў. Здабытак не багаты, але на большае начныя наведвальнікі не паквапіліся, магчыма, своечасова зь імі загаварыў голас Божы, і ўразуміў грэшнікаў.

М. М.

## СЬВЯТА Ў ГОРАДНІ

21 верасьня ў Горадні адбылася адметная падзея: экзархат праваслаўнае царквы Беларусі пры актыўным удзеле вернікаў зьдзейсьніў перадачу мошчаў сьвятога немаўляці Гаўрыіла аўтакефальнай праваслаўнай царкве на Беласточчыне. Гэтай падзеі папярэднічалі шматлікія перамовы кіраўніцтва праваслаўнай канфэсіі Беласточчыны з уладыкам Савай, з'экзархатам Беларусі.

Сярод беларускіх сьвятых немаўля Гаурыіл займае месца побач з Эўфрасіньняй Полацкай. Яго кароткае жыцьцё абарвалася, «дзякуючы» жорсткасьці людзей. Сьвяты Гаўрыіл нарадзіўся ў 1684 годзе ў вёсцы Зьвяркі ў сям 'і Пятра і Анастасьсі Гоўдзель на Беласточчыне. Калі яму споўнілася шэсьць гадоў, яго з бацькоўскай хаты ўкраў арэндатар іншавернік габрэй Шутко і пераправіў дзіця ў сваю сэкту ў Беласток. Там Гаўрыілу быў ускрыты бок і спэцыяльнымі прыстасаваньнямі ў яго забіралі кроў. На дзевяты дзень ад вялікіх стратаў крыві Гаурыіл сканаў.

Спрабуючы зьнішчыць сьляды ўчыненага злачынства, Шутко разам з памагатымі выкінуў цела на хлебную ніву, дзе яно на працягу некалькіх тыдняў праляжала. Да цела пачалі зьлятацца крумкачы і зьбягацца сабакі, але вось дзіва — сабакі ня толькі не разарвалі астанкі, але наадварот абаранялі іх ад пражэрлівых крумкачоў. Барацьбу сабак з крумкачамі заўважылі людзі і прыйшлі да гэтага месца. Тое, што яны ўбачылі, вельмі ўразіла: цела немаўляці Гаўрыіла ляжала ў жыце некранутым і зусім не паддалося гніеньню.

Аднавяскоўцы выканалі ўсе неабходныя для праваслаўнага пахаваньня захады і пахавалі Гаўрыіла на вясковых могілках. Болей трыццаці год магілка Гаўрыіла была некранутай, а ў першай палове XVIII стагодзьдзя на Беласточчыне ўзгарэлася эпідэмія невядомай хваробы. Яна касіла дзяцей тысячамі, і людзі хавалі іх групамі на могілках. Калі аднойчы капалі такую магілу, выпадкова кранулі труну Гаўрыіла. Яна рассыпалася і людзі ўбачылі, што цела Гаўрыіла ня стлела, а толькі ўсохла, захаваўшы ўсе памеры і формы. Сьвятароў зьдзівіў гэты выпадак. Зразумеўшы, што зь целам Гаўрыіла адбываецца воля Божая, вырашылі зьмясьціць мошчы ў спэцыяльна выкананай труне ў памяшканьні вясковай царквы.

Але і тут астанкі Гаўрыіла не знайшлі спакою. У 1746 годзе царква ў Зьвярках згарэла, а з целам Гаўрыіла зноўку адбыўся цуд. Труна згарэла датла, а цела засталося некранутым, абгарэла толькі рука. Пажар яшчэ болей пераканаў людзей у тым, што Гаўрыіл воляю Божаю стаў сьвятым. Зь цягам часу вернікі адбудавалі царкву і ў дзень Вялікадня 1894 году яна была высьвячана. Але і ў новым прыходзе нядаўна знаходзіліся мошчы сьвятога Гаўрыіла.

Праз восем год сьвяты храм ізноў згарэў, і з таго часу пачаліся шматлікія вандраваньні астанкаў сьвятога па Бацькаўшчыне. Яны некаторы час знаходзіліся ў Менску, а затым трапілі ў Сьвятатроіцкі кляштар у Слуцку, дзе сьвятога называлі Гаўрыілам Слуцкім. Пасьля таго, як улады зачынілі слуцкі кляштар, мошчы ў 1944 годзе былі перавезены ў Пакроўскі сабор Горадні, дзе і знаходзіліся па гэты час. Дзякуючы Богу і сьветлай празарлівасьці абодвух уладык, сёньня мошчы адбылі на радзіму. У Горадні засталася ў спэцыяльна выкананай капсуле частка сьвятых мошчаў Гаўрыіла.

Г. АСТРОЎСКІ.

### *ТУРЭЦКІ ПОПЫТ*

*Трымаць авечкі ў нас апошнім часам лічылася невыгодна. Зараз усё зьмянілася само сабой. Будаўнікі турэцкай фірмы «Энка» цяпер увесь час наведваюць Слонімскія вёскі, наязджаюць і ў суседні Зэльвенскі раён. Хочацца туркам паспытаць бараніны. Каб гэта авечкі гадаваліся за тыдзень-другі! Бо туркі, кажуць, на грошы не скупяцца.*

П. ЖЭБРАК.

**У абменным пункце валюты, што ў гарадзенскім унівэрмазе, на пачатку тыдня можна было набыць амэрыканскія даляры па 239 руб. 40 кап. і нямецкія маркі па 165 руб. 90 кап. Скупляліся ж яны адпаведна за 220.35 і 150.15. Уся астатняя вартасная валюта толькі скуплялася.**

А. С.

### БРАТЫ, А ЯК ЖА З РУБЛЯМІ?..

У Гарадзенскім мэдінстытуце адбылася навукова-камэрцыйная канфэрэнцыя лябарантаў-гінэколагаў зь пяці дзяржаваў: Польшчы, Летувы, Украіны, Расеі і, вядома, Беларусі. Удзельнікі ўбачылі сучаснае дасьледчае абсталяваньне. На жаль, як з прыкрасьцю зазначыў галоўурач гарадзкога раддому А. Рамашка, усё прапануецца за даляры, нават абсталяваньне з Масквы і Санкт-Пецярбургу. Адно прыемна, што цікавая міжнародная імпрэза адбылася ў Горадні

Г. АСТРОЎСКІ

## *ЛЕТУВІСЫ ХОЧУЦЬ ДА БЕЛАРУСАЎ*

Цяжкія ўмовы жыцьця прымушаюць грамадзян Летувы часта наведвацца на гарадзенскае торжышча. Цэны на харч у суседняй краіне ў два-тры разы даражэй, чым на Беларусі. Самае цікавае, што шмат хто зь летувісаў прадае ў нас тую ж шынку, праўда, лепшых гатункаў, а таму вельмі дарагую. Яе ахвотна купляюць у іх палякі. На ўтаргаваныя грошы летувісы вывозяць з Горадні прадукты. У нас яны каштуюць таньней, а таму іх можна болей накупляць. Пытаньне толькі ў тым, як яны ўсё гэта правозяць праз мяжу.

Мне давялося пагутарыць з адным, дарэчы, летувісам з Друскенікаў. Дык вось, гэты чалавек шчыра прызнаўся, што было б яшчэ лепш, каб, як гэта ўжо было ў трыццаць дзевятым годзе, далучылі Друскенікі да Парэцкага сельсавета.

✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦✦

Музыкі. Фота П. Аркадзьева.

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



## ПОЛЬСКІЯ НАВІНЫ

1.

У Польшчы будзе, праўдападобна, зпрыватызавана 600 дзяржаўных прадпрыемстваў. Кожны дарослы паляк зможа набыць акцыі затанна — так, каб іхні кошт не перавышаў 10 працэнтаў заробку.

2.

Польскія саўгасы — «ПГРы» сёньня ў вельмі цяжкім стане. З 1600 пэгээраў 100 пад пагрозай банкруцтва, 200 ужо збанкрутавалі. Усе разам яны маюць 16 більёнаў злотых даўгоў, таму банкі адмаўляюцца іх крэдытаваць. Прыватызацыя амаль не адбываецца. Толькі адзінкі з пэгээраў зьяўляюцца рэнтабэльнымі.

3.

Самыя дарагія кватэры, вядома, у Варшаве, а самыя танныя — у польскім «Наваполацку» — Катавіцах. Найм аднапакаёўкі ў сталіцы будзе каштаваць 1800—2300 тыс. злотых, а ў Катавіцах усяго 700 тысяч — 1 млн. Пры пакупцы жыльля сітуацыя падобная. 1 кв. мэтр у Варшаве каштуе 2,3 млн. злотых, у Катавіцах — 1,8 млн.

4.

З мэдычнымі паслугамі сітуацыя крыху іншая. Каб заплёмбаваць зуб у сталічнага лекара, трэба заплаціць ажно паўмільёна злотых. Найтаньней гэтая справа абыдзецца ў Познані, усяго — за 220 тысячаў.

5.

Пасьля нядаўняй забастоўкі польскіх аўтамабілезборшчыкаў узьняты цэны на самаходы. Фіят-126п-«малюх» каштуе цяпер 45 млн. злотых, а Фіят — «чынквачэнта» — ад 73 да 91 млн. У 70-я гады «Малюх» каштаваў 26 месячных заробкаў, а сёньня толькі 17.

Дарэчы, прысутнасьці фірмы «Фіят» у Польшчы споўнілася сёлета 60 гадоў.

6.

Віцэ-прэм´ер Гэнрых Гарышэўскі ўручыў двум мытнікам канвэрты, у якіх было па 30 млн. злотых. Прозьвішчы мытнікаў трымаюцца ў сакрэце, бо на аднаго зь іх ужо быў зроблены замах. Гэтыя два службоўцы папярэдзілі вялікую афёру.

З расейскай вайсковай базы ў Легніцы была зроблена спроба вывезьці вялікую колькасьць паліва на 250 млн. злотых. Злачынцы меліся прадаваць яго па 2200 зл. за літр. У дакумэнтах на вываз значылася прозьвішча палкоўніка Родчанка і фіктыўная фірма «Фактар».

Двум мытнікам, якія вызначыліся, выдзелена ахова.

7.

У Гданьску знаходзяцца 8 вэрталётаў Мі-8 з дакумэнтамі на прыналежнасьць да расейскай грамадзянскай авіяцыі. Належаць яны, аднак, эстонскай фірме, а захоўвае іх польская фірма. Улады маюць падазрэньне, што авіятэхніка прызначана да продажу за мяжу.

Улетку пяць такіх вэрталётаў праз Польшчу трапілі ў Чэха-Славаччыну, дзе былі затрыманы. Аказалася, што пры пасрэдніцтве нямецкай фірмы іх мела набыць Харватыя.

8.

Паліцыя затрымала аднаго шчэцінскага студэнта, які тыдзень трымаў свайго даўжніка ў замкнутым пакоі з кайданкамі. Ці верне ён свае грошы, невядома, але вось адказваць перад Законам яму давядзецца.

**А. С.**




***11-га верасьня ў сталіцы адбыўся Сойм БНФ. Абмяркоўваліся пытаньні ўнутранай і вонкавай палітыкі Беларусі, яе кіруючых колаў. Старшыня Сойму сп. З. Пазьняк зазначыў, што аніякія эканамічныя праграмы ня будуць працаваць, калі не адбудуцца палітычныя зьмены ў Вярхоўным Савеце і ў мясцовых уладах.***

***Кожны сябра БНФ павінен усьвядоміць, што ў дзяржавах Садружнасьці не адбылося дэмакратычных зьменаў. Наадварот, спраўдзілася перасьцярога БНФ аб пераразьмеркаваньні ўлады з рук былой КПСС камуністычна настроеным саветам. Карумпаваныя ўлады Беларусі старанна прыватызуюць дзяржаўную маёмасьць, а люд яшчэ горш гібее. Як зазначыў прамоўца, сёньня існуе спрыяльная магчымасьць назаўсёды зьліквідаваць уладу камуністых, якіх амаль не падтрымліваюць нават артадаксальныя вэтэраны. Блёк прагрэсіўных сілаў — інструмэнт для дасягненьня гэтае мэты канстытуцыйным шляхам.***

***Сакратар Управы Сойму сп. В. Вячорка акрэсьліў палітычнае становішча Беларусі ў СНД як безсэнсоўнае. Расея не адмовілася ад імпэрскіх захадаў і па-ранейшаму выступае ў ролі жандара на ўсёй тэрыторыі былога Саюза, што мае вялікую пагрозу для сувэрэнітэта нашай дзяржавы.***

***Кастусь ЖЫНЬ,***
***старшыня Гарадзенскай Рады БНФ.***

* * *

***Ініцыятыўная група па правядзеньню Усебеларускага рэфэрэндума правяла справаздачную канфэрэнцыю. Старшыня групы сп. Ул. Анцулевіч зьвярнуў увагу на зьмену тактыкі. Трэба рабіць захады, каб ВС разгледзеў пытаньне аб рэфэрэндуме адным зь першых. Неабходна падрыхтаваць сьпісы членаў выбарчых камісій ад дэмсілаў і своечасова перадаць іх у мясцовыя органы ўлады адразу ж пасьля прызначэньня даты правядзеньня рэфэрэндума.***

***Др Ю. Хадыка распавёў аб сустрэчах ініцыятыўнай групы з Хадэцыяй Бэльгіі і лідэрам Саюза габрэйскіх хрысьціянскіх дэмакратаў у Эўрапарлямэнце сп. Л. Круксам. Падпісаны пратакол аб падтрымцы дэмрэформаў на Беларусі. Дасягнута таксама дамоўленасьць аб тым, што хадэкі возьмуцца інфармаваць сусьветную грамадзкасьць аб ходзе беларускага рэфэрэндума.***

***П. П.***

***З ініцыятывы управы БНФ у Менску адбылася навукова-практычная канфэрэнцыя «Да перамогі на рэфэрэндуме й выбарах — адзіным дэмакратычным фронтам». У яе працы прынялі ўдзел БСДГ, АДПБ, БХДЗ, прадстаўнікі іншых дэмакратычных партый і рухаў, а таксама незалежныя амэрыканскія назіральнікі.***

## МАЦЯРШЧЫНЬНІК ЭДЗЕЧКА—ЧАЛАВЕК ІДЭЙНЫ

У тэлевізійнай студыі Астанкіна днямі адбылася сустрэча з расейскім пісьменьнікам-эмігрантам Эдуардам Лімонавым (сапраўднае прозьвішча Э. Савенка). У Расеі выдадзена пакуль толькі адна яго кніга «Гэта я, Эдзечка». Таму меркаваць аб ім, як аб пісьменьніку, я, асабіста, пакуль не магу, тым больш, што кніжка вельмі спэцыфічна напісана.

Але я аб іншым. Палітычныя погляды гэтага пісьменьніка-эмігранта не выклікаюць сумненьняў — ён за Савецкі Саюз. Тройчы падчас перадачы падымаў Лімонаў кулак з радасным воклічам: «Да здравствует Советский союз!», на што зала гучна адказвала «Ура, товарищи!», і пляскала ў далоні. Перадача нагадвала сход «нашых». Толькі адзін з кульбачкай «посмел усомниться», як у лепшыя часы плюралізму, і задаў нетактоўнае пытаньне: «І усё ж чаму ў тваёй кніжцы праз кожнае слова бля...».

На экране зьяўляліся тытры. Вытрымкі з расейскіх газэт паведамлялі, што Э. Лімонаў належыць да ценявога габінэту Жырыноўскага, што пад час падзей у Малдове пісьменьнік браў удзел у начных патрулях на баку Прыдністроўя. Сам Лімонаў дадаў, што раней, у маладосьці, любіў наведваць Маскву, каб сустрэцца з такімі пісьменьнікамі, як Губанаў, а зараз бывае ў Маскве, каб пабачыцца з Алкснісам і іншымі.

Пытаньняў, якія датычаць літаратурнай дзейнасьці, было няшмат. Толькі адзін з прысутных у зале назваўся літаратарам і спрабаваў даведацца: «Як вы пішаце: адразу на машынку ці самапіскай?» На жаль, пісьменьнік застаўся халодным да такіх пытаньняў.

Каму што дае час, праведзены ў замежжы? Лімонаў, зь яго слоў, застаўся рускім чалавекам і зразумеў, што калі і паважалі нас раней на Захадзе, то толькі таму, што за плячыма стаяла магутная дзяржава — Савецкі саюз, за аднаўленьне якой ён і прыехаў змагацца.

**Т. М.**




Памыліўшыся, я напачатку трапіў у штаб, куды мяне, вядома, не пусьцілі. А спатканьне гарадзенскіх журналістаў з афіцэрамі штабу расквартараванай у нас арміі адбылося ў Доме афіцэраў у чытальнае зале бібліятэкі. Праўда, бібліятэкарка часова выйшла й замкнула дзьверы, таму магло здасца, што спатканьне мае сакрэтную афарбоўку. Але так ня было. Мяне, здавалася, чакалі, і ў сьпісе запрошаных насупраць назвы «Пагоня» заставалася незапоўненая графа.

Мірна цікаў насьценны гадзіньнік, на магнітафоны запісвалася гаворанае, перада мной стаялі пляшкі зь «Мінскай-4», а па сьценах былі расстаўленыя кніжкі пра Перасьветаў з Чэлубеямі, карацей, пра рускую вайсковую славу. Так, але мова была пра войска беларускае. Перакажу на паперы некаторыя свае ўражаньні й развагі.

Першая праблема арміі — кватэрная. На Берасьцейшчыне і Гарадзеншчыне 3500 сем'яў афіцэраў і прапаршчыкаў ня маюць жытла, часам туляцца ў казармах і вучэбных клясах. Шкада, канешне. Але колькі ў гэтых вабласьцях безкватэрных звычайных людзей — ніхто не падлічваў. Часам даводзіцца чуць: не злуйце людзей, у якіх зброя у руках. Дзіўныя словы. Можа, астатнім безкватэрным таксама зброі пашукаць?.. Цяжка, нават немагчыма афіцэру збудаваць дом за 1 млн. рублёў: але й амаль любому іншаму аднолькава цяжка гэта зрабіць. 15—20 гадоў трэба чакаць кватэры? Але й простыя людзі чакаюць. Хіба ўсе мы вінаваты ў тым, што мусілі працаваць за 120—150 рублёў, пакуль СССР дзесяцігоддзямі імкнуўся выперадзіць Амэрыку ў гонцы ўзбраеньняў? Мы — такія ж жабракі, як і ахвяры збанкрутаванай вайсковай машыны, якія носяць пагоны. Зь лёккім сумам прысутныя ўспомнілі аб зарплаце амэрыканскіх афіцэраў. Усё слушна, але ж і журналіст у Амэрыцы ня мусіць ашчаджаць на абедах, не падлічвае ў галаве, ці можна яму сёньня дазволіць сабе кубачак кавы...

Са спадчынай СССР нам давядзецца лічыцца яшчэ сотню гадоў. Такая рэальнасьць. Аднак ня могуць не нерваваць сёньняшнія прыклады бязглуздага памнажэньня гэтага цяжара. У нас вялізарнае савецкае войска. Беларусі неабходна за пару год скараціць яго ў некалькі разоў. Якія выдаткі! І ў гэты ж час зь Нямеччыны выводзіцца да нас чужое расейскае войска, якое нам патрэбна, як мерцьвяку лекі. Выводзіцца, каб адразу быць скарочаным у 5—6 разоў! Тэатр абсурду! Свае афіцэры пакутуюць без жытла, нават звальняюцца ў рэзэрв без кватэраў. Гэтыя ж, чужыя, прыязджаюць у гатовыя кватэры (для іх будуецца ў Слоніме — 1400 кватэр, у Баранавічах — 600 і г. д.), але пачынаюцца пакуты з-за таго, што навасельцы ня маюць права на беларускае грамадзянства й ня маюць дачыненьня да Беларускага Войска. Першыя, ня маючы жытла, ня маючы прапіскі (яна яшчэ дагэтуль існуе?!), а таму ня могуць атрымаць талёны на цукар, мыла ды ўсё астатняе. Другія без праблемаў уязджаюць у навюткія кватэры, але ня маюць права на грамадзянства. Яны — грамадзяне іншае дзяржавы.

Былыя рэжысёры гэтага абсурдальнага спэктаклю нам вядомы. А хто працягвае кіраваць ім сёньня? Падобна, што ніхто. Ва ўсякім разе, са сваіх — ніхто. Акторы па чарзе выходзяць на сцэну, чытаюць даўно вывучаныя ролі, але сам рэжысёр даўно памёр, а назву п´есы ніхто не памятае. Сэнсу аніякага, ва ўсякім разе — для гледачоў. Аднак за кулісамі адбываецца падазроная валтузьня.

Наступная праблема. Афіцэрам мала плоцяць. Нам раздалі параўнаўчы сьпіс заробкаў у беларускім, расейскім і ўкраінскім войсках. У нас лейтэнант, камузвода мае 4840 руб., у Расеі — 5481 руб., палкоўнік кампалка адпаведна: 9325 і 9504. Зь 1 кастрычніка аклады ў РФ будуць падвышаны, лейтэнант будзе мець 8211, а палкоўнік — 14 256. Чаму ж рускія афіцэры без жытла і з малым заробкам усё адно ня хочуць вяртацца на Радзіму? Бо ў войску сёньня гавораць: раней заграніцай была Польшча і Нямеччына, а цяпер — Беларусь. Праўда, як нам паведамілі, пасьля выступленьня старшыні Дзяржкампрацы сп. Бадзея, які прапануе, каб пэнсійны век быў аднолькавым для цывільных і вайскоўцаў, нібы павялічылася колькасьць рапартаў аб пераводзе ў іншыя дзяржавы Садружнасьці. Але ж, зноўтакі калі даць веры інфармацыі, удалося затое прыняць і ўладкаваць каля тысячы афіцэраў-беларусаў, г. зн. дзясятую частку тых, хто прагне вярнуцца на Бацькаўшчыну. Проста выдатна, што тысячы чалавек з аднога й тысячы з другога боку пашчасьціла вярнуцца дахаты!

Што ж датычыць усіх гэтых пэнсійных справаў, дык хутчэй за ўсё спэкулятыўныя страхі заснаваны на недагаворках. Вядома, сёньня трэба ўлічваць тое, што вайсковец ваяваў у Аўганістане або служыў у цяжкіх умовах Запаляр´я або Забайкальля. Але ж у будучыні беларускім афіцэрам болей ніколі не спатрэбіцца ваяваць у тым Аўганістане або служыць у Запаляр´і. А калі ён праслужыць усё жыцьцё ў Горадні, чаму ён павінен мець перавагу перад тым жа журналістам, які па сьмяротнасьці ва ўсім сьвеце стаіць адразу за шахцёрам? Вось такім чынам — спакойна і разважліва трэба тлумачыць падобныя пытаньні людзям, а не спрабаваць распальваць несьвядомыя інстынкты, не шукаць чорнага ката ў цёмным пакоі, дзе яго няма.

Цяпер колькі словаў пра прысягу рэзэрвістаў, якая адбылася 8 верасьня ў многіх гарадах Беларусі. Мне, як чалавеку, які ўпершыню ў жыцьці меў шчасьце прысягнуць сваёй адзінай Бацькаўшчыне, а ня нейкай абрэвіятуры, вельмі «прыемна» было пачуць фармулёўкі, накшталт: «Антигосударственный, антиконституционный, антизаконный акт... Политические инсинуации вокруг вооруженных сил...» Не магу ўцяміць, як могуць людзі, для якіх «Беларусь» — адно з паняцьцяў у шэрагу: Кіргізія, Забайкальле і г. д., абвінавачваць у правакацыі тых, чыё сэрца жыве Беларусьсю? Неэтычна гэта. Мы кормім войска, якое нам не прысягала і якое яшчэ раздумвае над тым, ці варта наогул прысягаць. Калі ўтрыраваць, дык да самага 31 сьнежня яно, замест абараняць, у любы момант можа выступіць супраць нас. Вось для чаго патрэбна прысяга й патрэбна неадкладна. А ўсе гэтыя размовы пра тое, што ўжо аднойчы прысягалі,— на карысьць нябогаў. Усе мы калісьці прысягалі, ды прысягалі нябожчыку, СССР амаль год не існуе.

З гэтым пытаньнем, дарэчы, зьвязана й наступная праблема. Сёньня з войска салдаты ўцякаюць усё часьцей. Маўляў, служба стала непрэстыжнай. Вось, Івана Броўкіна праважалі ў войска ўсёй вёскай! Гаварылі і пра тое, што трэба не сакрэціць назвы вайсковых частак, а наадварот — афішаваць іх, культываваць традыцыі, тады і прэстыж будзе. Усё гэта так. Але якія традыцыі? Іван Жахлівы, Ярмак, карнік Сувораў? Беларуская вайсковая слава выклікае сёньня ў нашым войску раздражненьне, беларускія патрыёты ў ім — пэрсоны нон грата. З такога войска ўцякаюць і будуць уцякаць, бо гэта — тая ж савецкая армія з дзедаўшчынай і ўсім астатнім.

Спадзяюся, што арганізатары прэс-сустрэчы на мяне не пакрыўдзяцца. Карысьць яе — безумоўная. Аднак каб сапраўды нешта зьмяніць у нашым войску, трэба перадусім пазбыцца мысьленьня катэгорыямі былой СА і былой БССР, ды не азірацца на дзяржкіраўнікоў, якія палохаюцца ўласнага ценю. Інакш нічога ня будзе. Ні-чо-га.

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012





Хрысьціянства. Фота А. Макарэвіча.



# СУДОВАЯ СПРАВА № 10/9012

*«Бацька любіць сваё дзіця, маці любіць сваё дзіця, дзіця любіць бацьку і маці. Але гэта не тое, сябры: любяць і зьвяры сваё дзіця. Аднак, парадніцца па духу, а не па крыві, можа адзін толькі чалавек».*

*М. Гогаль*

Гісторыя, аб якой я хачу вам распавесьці, адбылася ў нас на Гарадзеншчыне. Прычым, заранёў упэўнены, што наўрад ці зьдзіўлю вас да глыбіні душы: на жаль, нашыя душы апошнім часам відавочна зачарсьцьвелі. Ды і ці можа быць інакш, калі злачынствы, часам самыя жорсткія, сталі амаль звычайнай зьявай у нашым жыцьці. Так ці інакш, адбываецца адаптацыя пачуцьцяў да любой крымінальнай навіны. Нас ужо цяжка чым-небудзь уразіць...

Суд адбыўся ў канцы жніўня, злачынца атрымаў дванаццаць гадоў узмоцненага рэжыму. Усе імёны ў маім аповядзе выдуманыя. Думаю, так будзе лепш.

Невялікае мястэчка побач зь лесам, ціхае, недалёка ад горада. Тут амаль паўсюдна прыватныя хаткі з прасторнымі дварамі, адкуль кожную раніцу выганяюць на пашу кароў, і гаспадынь будзяць галасістыя пеўні. Хаткі патанаюць у зеляні, а за мястэчкам цэлае лета не сьціхалі дзіцячыя галасы каля маленькага стаўка, выкапанага яшчэ напачатку стагодзьдзя. У такім мястэчку людзі добра ведаюць адзін аднаго, бо ўсё жыцьцё праходзіць навідавоку.

Напачатку вясны, позьнім прахалодным вечарам зь мястэчка ў горад накіраваліся дзьве пятнаццацігадовыя сяброўкі Галя і Алена. Галя яшчэ ніяк не магла ўцяміць, навошта сярод ночы трэба ісьці цёмнай лясной дарогай, не чакаючы раніцы, пакуль з працы вернецца Аленчына мама. Але яе сяброўка была настроена рашуча, яна нават сабрала свае рэчы, каб больш ніколі не вяртацца дахаты.

У горадзе ім не пашэнціла. Дзяцька Алены працаваў у начную зьмену. Так і давялося да раніцы хадзіць каля дзьвярэй па цёмнай пляцоўцы вялікага блёчнага дома.

Пад абед прыехалі бацька і маці. Яны з лаянкай накінуліся на «непаслухмяную» дачку, якая моўчкі прыціскалася да сьцяны, дрыжэла, сьціскала кволыя кулачкі і нічога не адказвала. Бацька біў яе палкаю і крычаў, каб ішла дахаты, а яна маўчала. Толькі па шчоках цяклі буйныя дзіцячыя сьлёзы. А тут яшчэ пачала патрабаваць маці, каб яна растлумачыла свае паводзіны, і ўдарыла сваю дачку па твары.

Алена не магла трываць болей зьдзекаў, яна доўга таілася дагэтуль, але ў гэты момант яна ва ўсім прызналася і распавяла сваёй маці, што калі тая адыходзіць на працу, бацька гвалціць яе, сілаю зацягвае ў ложак, і так ужо паўгода...

Папраўдзе, я таксама ня ведаў, як напісаць аб гэтым злачынстве. На судзе я не прысутнічаў, ды і зь цяжкасьцю ўяўляю, як адбываўся гэты працэс. Перада мною ляжыць толькі справа № 10/9012, якую і гартаць па другому разу ня ведаю як.

Алена — 1977 года нараджэньня. У школе аб ёй адклікаюцца як аб ня вельмі здольнай вучаніцы, але затое яна ціхая і спагадлівая дзяўчынка. Праўда, апошнім часам зусім сумная і адзінокая.

Год таму яна спрабавала скончыць жыцьцё самагубствам: выпіла дзесяць парашкоў, якія знайшла ў хаце. Тады ўсё абыйшлося, яе ўратавала маці. Бацька адразу затэлефанаваў ёй на працу (яна дзяжурыць санітаркай у местачковым шпіталі). Але тым разам прычыны самагубства не дазналіся. А бацька зноў працягваў прыходзіць дахаты нападпітку, выганяў маленькую Аленіну сястрычку гуляць на вуліцу, а яе, Алену, зноў сілаю зацягваў у ложак, закручваў рукі, сьцягваў з дачкі адзеньне і папярэджваў, калі яна стане крычаць, дык ён пачне біць...

Яна не крычала. Так паўтаралася два-тры разы на тыдзень — днём і ўначы, калі ўжо засынала маленькая сястрычка, а маці была на працы.

Пазьней Алена следству распавядала, што гвалціў яе бацька заўсёды, калі вяртаўся дахаты нападпітку.

Ніяк не магу ўявіць сабе гэтага чалавека, калі ён цьверазеў. Якія думкі мясьціліся ў яго галаве, якімі вачыма глядзеў ён на сваю родную непаўналетнюю дачку, што казаў ёй?.. Ці сутыкаліся іх погляды калі-небудзь? Ці бачыў, як яна, хаваючыся, засьцірвала брудныя прасьціны, каб нічога не заўважыла маці?..

Да гэтага ён стаяў на ўліку ў нарколага, на працу зьяўляўся толькі калі хацелася. Працаваў рабочым на будоўлі.

У той дзень, калі Алена з маці пайшлі ў міліцыю, ён быў ужо ў хаце на добрым падпітку, адвінціў газавы кран, паставіў ля дзьвярэй сякеру і чакаў дачку з жонкай для высьвятленьня адносінаў.

Пазьней, пры допыце і на судзе ўвесь час будзе адмаўляць прад'яўленыя яму абвінавачваньні. Будзе казаць, што ўсё гэта не што іншае, як нагавор жонкі, каб засадзіць яго ў турму і адабраць кватэру. А дачка, маўляў, увогуле па танцах бегала ды кавалера ўжо даўно мела.

Самае дзіўнае, на мой погляд, у гэтай справе, што судова-псіхіятрычнай экспэртызай грамадзянін В. быў прызнаны здаровым. Зразумела, я зусім не аспрэчваю заключэньне прафэсійных экспэртаў, папросту сам для сябе яшчэ раз падкрэсьліваеш, як мала ты пакуль ведаеш аб людзях. Нават не ўяўляеш, што ўсё гэта можа адбывацца побач з табой.

... У той прахалодны вясновы вечар, калі дзьве дзяўчынкі надумалі ўцячы у горад, бацька Алены быў зноў нападпітку і чапляўся да іх абоіх. Уяўляю, што рабіла тады Алена, каб яе сяброўка ні аб чым не здагадалася, бо яна ж таілася з гэтым два гады! У свае трынаццаць гадоў яна паспытала самы вялікі зьдзек, які толькі змаглі прыдумаць людзі, каб прынізіць асобу чалавека. І паспытала ад свайго роднага бацькі.

У той вечар Алена ўжо ведала, што праз некалькі дзён маці ад'едзе ў Менск на апэрацыю і вернецца не раней, як праз месяц. Відаць, пагэтаму вырашыла: няхай лепш усе даведаюцца пра яе таямніцу...

Першыя радкі, якія напісала Аленка ў сваёй заяве ў міліцыі, гучалі так: «Я патрабую, каб майго бацьку прыцягнулі да крымінальнай адказнасьці...».

Вось такі сумны мой кароткі аповяд пра звычайных людзей зь невялічкага мястэчка на Гарадзеншчыне, лёс якіх невядома як складзецца далей. У любы момант пакрыўджаная Аленка можа апынуцца разам з вамі, не зрабіце ёй нічога благога, яна ўжо нацярпелася, даволі.

**М. КАРНЕВІЧ.**

# ЛЕТА 1972: РАЗГОН МІРНАЙ ДЭМАНСТРАЦЫІ Ў ГОРАДНІ

***Пра падзеі, якія мелі месца ў Горадні летам 1972 года, не напісана амаль ані воднага радка. Тагачасныя падзеі афіцыйныя крыніцы інфармацыі назвалі «бунтам некалькіх соцень дэградаванай моладзі». У народзе гэтую акцыю непавінавеньня брэжнеўскім уладам ахрысьцілі паўстаньнем. Што ж напраўду адбылося тады ў Горадні? Сёньня, праз дваццаць год, карэспандэнт успамінае тое, сьведкам чаго ён асабіста быў у тыя дні. І разважае ў гутарках з тымі, хто з плякатамі быў у шэрагах дэманстрантаў.***

### НАПЯРЭДАДНІ

*Тым памятным летам наша сябрына 15-гадовых хлапчукоў ахвотна хадзіла на Ласасянку ў раён вёскі Тарусічы. Непадалёку вёскі поўным ходам вялася будоўля штучнага возера, якое потым атрымала назву Юбілейнага. Нярэдка мы бывалі паблізу старога аэрадрома, дзе назіралі, як садзіліся і ўзьляталі самалёты. У гэты дзень, а была сярэдзіна тыдня, на лётным полі селі чатыры вэрталёты. Зь іх высыпалі вайскоўцы, вопратка каторых была незвычайнай: блакітная, замест «кірзачоў» жаўнеры мелі паўботы, якія шнураваліся.*

*За дробныя паслугі мы запрыязьніліся з жаўнерамі. Яны распавялі, што прыляцелі зь Віцебску, а іх вайсковая частка адносіцца да паветранай дэсантна-штурмавой дывізіі. Што тут, у Горадні, будуць рабіць дэсантнікі? Тыя адказалі, што прыляцелі на вучэньні. Якія гэта былі вучэньні, мы даведаліся праз некалькі дзён.*

### НА ПЛЯЦЫ САВЕЦКІМ

*Позьнім ранкам у сьпякотны ліпень мы з сябрамі вырашылі пайсьці ў кіно. У Горадні пасьпяхова дэманстраваўся тады індыйскі фільм «Валацуга». Перайшоўшы мост цераз Нёман, мы ўбачылі, што пляц Савецкі запоўнены аўтафургонамі, якія ланцугом перакрылі тэрыторыю пляцу, навокал было шмат міліцыянтаў.*

*Далей нас ня пусьцілі, але мы знайшлі выйсьце: праз плот тонкасуконнага камбінату, а потым каля першай школы й далей дварамі мы апынуліся побач крамы «Адзеньне». Заскочылі ў пад'езд, па лесьвіцы ўзьняліся вышэй, і ўбачылі наступнае.*

*Маладыя хлопцы й дзяўчаты, лікам прыкладна некалькі соцень, ішлі калёнай, трымаючы ў руках плякаты з надпісамі: «Свабода слова», «Свабода друку», «Свабода асобе», быў плякат з надпісам: «Вольнае каханьне». Наперадзе калёны ішоў на ланцугу чырвоны певень.*

*Дэманстранты выйшлі на асфальтаваны Савецкі пляц, і раптам карэ з вайскоўцаў рушыла ім насустрач.*

*Жаўнеры былі з дубцамі, яны імкліва рухаліся на дэманстрантаў.*

*Уразіла тое, што вайскоўцаў было значна болей. З жахам мы пазналі сярод іх нашых знаёмых дэсантнікаў.*

*Тое, што распачалося праз некалькі сякунд, апісаць складана. Дэсантнікі накінуліся на калёну, як ваўкі, пачалі біць дубцамі хлапцоў, дзяўчат, трушчыць плякаты. Дэманстранты ня паддаліся, яны адбіваліся як маглі, але сілы былі няроўныя. Жаўнеры вырывалі з шарэнгаў дэманстрантаў і шпурлялі іх у расчыненыя «рэфрыжэратары». Дапамагалі ім у гэтым міліцыянты. Напоўненыя аўтафуры ад'яджалі. Хутка было ўсё скончана.*

*Савецкае радыё сьціпла паведаміла, што ў Горадні «хіпусы» справакавалі інцыдэнт з міліцыянтамі. Замятаньні лакалізаваны апэратыўнымі дзеяньнямі службаў аховы правапарадку. Якія гэта былі службы — я расказаў.*

*«Галасы», праўда, ужо ў вечары паведамілі, што ў Горадні было паўстаньне моладзі супраць жорсткасьці брэжнеўскіх афіцыйных улад... З часам дэманстрацыя моладзі ў Горадні абрасла рознымі неверагоднасьцямі. Мне пашчасьціла, я сустрэўся з тымі, хто тады быў сярод дэманстрантаў.*

*Рыгора Карпіцкага мне давялося сустрэць у Маскве, дзе ён праходзіў курс рэабілітацыйных лекаў у інстытуце мікрахірургіі вока імя С. Фёдарава. Рыгор родам зь Вільні, дзе ў адной з музычных школ ён працуе сёньня, выкладае сальфэджыа. Вельмі ветлы чалавек, стрыманы й высакародны. Даведаўшыся, што я з Горадні, пасябраваў са мною.*

*Неяк поўным складам палаты мы абмяркоўвалі падзеі ў Тбілісі, нехта заўважыў, што гэта першая акцыя, у якой камуністычныя ўлады скарысталі войскі супраць уласнага народа. Я запярэчыў, і расказаў, што ведаў пра лета 1972-га. Маё апавяданьне вельмі ўзрушыла спадара Карпіцкага, і ў рэшцерэшт Рыгор распавёў, што быў удзельнікам той акцыі пратэсту моладзі ў Горадні.*

### РЫГОР КАРПІЦКІ

*У той час мне было 20 год, я скончыў два курсы музычна-педагагічнага факультэта Віленскага унівэрсітэта. Кампанаваў музычныя творы, якія сам і выконваў. Час быў ня лепшы для творчага чалавека. У памяці — яшчэ сьвежыя ўспаміны пра акупацыю Савецкімі войскамі Чэхаславаччыны. У душы гарэў сорам перад сьветам за пралітую кроў у Празе, Братыславе, Брно.*

*Скажу шчыра, інтэлігенцыя адгукнулася па-рознаму на факты жорсткасьці. Людзі сумленныя, як акадэмік А. Сахараў, пратэставалі, але й былі такія, хто станоўча ацаніў агрэсію. Адчуўшы апазіцыю, тагачасныя органы бясьпекі ўвялі жорсткую цэнзуру. Пісаць і сьпяваць можна было толькі тое, што было не забаронена цэнзурай. Менавіта ў гэтым афіцыйна дазволеным рэчышчы і рухаліся тыя, хто баяўся расправы, а было гэта старэйшае пакаленьне, якое ведала «выгоды» сталінскіх лягераў. Мы ж, маладыя, здрадзіць сумленьню не маглі, і мала-памалу ў нас у Вільні пачалі стварацца незалежныя гурткі ў асяродзьдзі мастакоў, літаратаў, музыкаў. Не скажу, што былі гэта палітычныя ўтварэньні. Хутчэй клюбы аднадумцаў, дзе можна было гаварыць і рабіць тое, што думаеш...*

*(Працяг на 4 стр.).*

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# НЕПЭДАГАГІЧНАЯ ГІСТОРЫЯ

Звычайна лічыцца, што на час вялікіх летніх вакацыяў, калі пусьцеюць школы, тут ідзе на спад і бурлівае школьнае жыцьцё, гэта ня так. Скажам, на Зельвеншчыне летам зьмянілася кіраўніцтва раённага аддзелу народнай адукацыі. Сама па сабе гэтая падзея, магчыма, і не такая ўжо значная. Куды большае значэньне маюць тыя акалічнасьці, якія зьвязаны з такой кадравай перастаноўкай.

Мікалай Ярмолік нарадзіўся й вырас на Зэльвеньшчыне. Паступіў у Гарадзенскі пэдінстытут імя Я. Купалы. Праз чатыры гады вярнуўся ў свой раён і стаў працаваць настаўнікам фізікі ў Славаціцкай СШ. Праз год ён ужо арганізатар пазакласнай і пазашкольнай работы. Яшчэ праз год — дырэктар Дзяркацкай няпоўнай сярэдняй, а неўзабаве — Пасуціцкай сярэдняй школы. Сам М. Ярмолік тлумачыць сваю хуткую кар'еру наступным чынам: дэфіцытам у адукацыі мужчын.

І вось чарговы значны крок у працоўнай біяграфіі М. Ярмоліка: 29 чэрвеня 1982 года на сэсіі раённага Савета ён зацьвярджаецца загадчыкам раённага аддзелу народнай адукацыі.

Як працавалася? Па-рознаму. І вось зусім нядаўна споўнілася роўна 10 гадоў з моманту таго прызначэньня. Лёс распарадзіўся так, што менавіта 29 чэрвеня сёлета выканкам раённага Савета прыняў рашэньне аб вызваленьні М. Ярмоліка ад пасады, ды яшчэ згодна артыкулу за «сістэматычнае нявыкананьне сваіх службовых абавязкаў».

— Уся прычына ў тым, што мы са старшынём райвыканкама, як звыкла кажуць, з розных караблёў,— заўважае Мікалай Дзьмітрыевіч.— Трэньні паміж намі былі й раней, але яны неяк згладжваліся, а гады два таму прыкметна ўзмацніліся. Напэўна, сказалася тое, што ў час кампаніі на выбарах народных дэпутатаў я адкрыта падтрымліваў не вылучэнца райвыканкама, а яго праціўніка.

У 1989 годзе ў раёне працавала камісія вабласнога ўпраўленьня народнай адукацыі. І хаця яна ня выказала асаблівых заўваг, тым ня менш, у сьнежні 1990 года на сэсію раённага Савета выносіцца прапанова выканкама... аб вызваленьні М. Ярмоліка ад займаемай пасады за злоўжываньне службовым становішчам, прыніжаны кантроль за работай кадраў. Сэсія пераважнай большасьцю галасоў — 47 супраць 7 — адхіліла тую прапанову.

Між іншым, матывіроўка, на падставе якой выносілася прапанова аб вызваленьні М. Ярмоліка, даволі сур'ёзная. Іншая справа, наколькі яна аб'ектыўная, абгрунтаваная. Што датычыць злоўжываньня службовым становішчам, дык такі факт у дзейнасьці загадчыка райана сапраўды быў. Яшчэ ў 1986 годзе, калі М. Ярмолік аформіў на работу сваяка жонкі, які жыў у Ваўкавыскім раёне, і выдаў яму мэтавае накіраваньне для паступленьня ў інстытут, за што атрымаў спагнаньне ад вабласнога ўпраўленьня.

Відаць, тая рашучасьць дэпутатаў, зь якой яны адстаялі М. Ярмоліка, дадала такой жа рашучасьці і другому боку.

У красавіку сёлета ствараецца камісія па падрыхтоўцы пытаньня на выканкам раённага Савета аб рабоце аддзела народнай адукацыі па выкананьню закона «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь». Разглядалася яно на выканкаме, як ужо вядома, 29 чэрвеня. Які вынік — таксама вядома.

— Не выпадкова пытаньне аб рабоце аддзелу народнай адукацыі выносілася на пасяджэньне выканкама, а не сэссіі райсавета,— лічыць М. Ярмолік.— Спроба праваліць мяне на сэсіі не ўдалася, не дазволілі дэпутаты. А вось члены выканкама — «свае» людзі. Да таго ж многія зь іх уваходзілі ў склад камісіі, якая правярала работу аддзела, і яны з гатоўнасьцю прагаласуюць за тое рашэньне, якое патрэбна...

Камісія, што рыхтавала пытаньне на выканкам і якую ўзначальваў намесьнік старшыні райвыканкама А. У. Карпееў, прадставіла даволі падрабязную даведку. Размова ў ёй ідзе аб наяўнасьці цэлага шэрагу істотных недахопаў і ўпушчэньняў у рабоце аддзелу (хаця, трэба думаць, што і выканкама таксама). А яна, калі коратка, наступная: «Аддзел ня стаў каардынiруючым цэнтрам па накіраванай арганізацыі і эфэктыўнаму ўдасканаленьню якасьці навучаньня і выхаваньня вучняў, павышэньня прафэсійнага майстэрства пэдагогаў, іх адказнасьці». Прыводзіўся тут і знаёмы ўжо факт шасьцігадовай даўнасьці аб злоўжываньні М. Ярмолікам службовым становішчам, і тое, што ён выступаў супраць увядзеньня ў строй новай школы, пабудаванай у райцэнтры (хаця ні слова аб тым, колькі было ў гэтай школе недаробак). Прыводзіўся нават і такі факт. У Казловіцкай школе, маўляў, на момант праверкі адсутнічаў графік дзяжурства настаўнікаў і вучні, карыстаючыся гэтым, парэзалі ў калідорах запавескі, падрапалі фоташпалеры...

Такім чынам, выканкам прыняў рашэньне аб вызваленьні М. Ярмоліка ад займаемай пасады, хаця гэтае пытаньне павінна была вырашаць сэсія райсавета, якая яго на гэтай пасадзе ў свой час зацьвердзіла. Неўзабаве аддзел народнай адукацыі ўзначаліў І. Чарток, з нагоды чаго і сёньня можна пачуць самыя разнастайныя выказваньні й меркаваньні.

Іван Ігнатавіч, хаця й нарадзіўся на Зэльвеншчыне, працуе тут усяго каля года. Прыехаў зь Бераставіччыны і адразу ж узначаліў калектыў Зэльвенскай няпоўнай сярэдняй школы № 1. А неўзабаве выканкам райсавета прымае рашэньне аб будаўніцтве для яго за кошт сродкаў, выдзеленых на капрамонт устаноў асьветы, жылога дома. І вось ужо І. Чарток — в. а. загадчыка адзела народнай адукацыі. І пайшлі чуткі, што Чарток — асоба, прыбліжаная да старшыні райвыканкама...

— Пры Ярмоліку дырэктарскі корпус быў падзелены на «нашых» і «вашых»,— заўважыў з гэтай нагоды старшыня райвыканкама М. П. Дзянішчык.— А патрэбны тут чалавек нэйтральны. І няма нічога дрэннага, што Чарток пабудаваў дом. Чалавек аддаў адукацыі 30 гадоў і заслужыў гэта.

— Я таксама адпрацавала ў школе звыш 30 гадоў, да таго ж — увесь гэты час у сваім раёне,— заўважае настаўніца СШ № 3 раённага цэнтра І. У. Генюш.— Аднак чамусьці не заслужыла, каб мець хоць бы добрую кватэру, а не асабняк. Наша сям'я з сямі чалавек цясьніцца на 33-х квадратных мэтрах...

М. Ярмолік ня лічыць аб'ектыўнымі вывады камісіі, а тым больш рашэньне выканкама. Ён зьвярнуўся ў суд. Аднак там разгляд справы прыпынены, каб запытаць згоду прафсаюзнага камітэта і РК прафсаюза работнікаў народнай асьветы на яго звальненьне, а таксама — канчатковага вырашэньня пытаньня аб яго вызваленьні сэсіяй райсавета. Якія тут будуць вынікі — пакажа час...

У ліпені ў раёне працавала экспэртная камісія вабласнога ўпраўленьня народнай адукацыі, мэта якой была даць ацэнку дзейнасьці аддзела народнай адукацыі і праверыць аб'ектыўнасьць прынятага выканкамам раённага Савета рашэньня аб вызваленьні М. Ярмоліка ад займаемай пасады. Вынікі гэтай праверкі істотна адрозьніваюцца ад вынікаў той, што праводзілася камісіяй пад кіраўніцтвам А. У. Карпеева.

Члены камісіі аблуна ўпэўнены, што не было неабходнасьці мяняць кіраўніка райана, калектыў якога здольны справіцца з выяўленымі недахопамі ў сваім ранейшым складзе. Прадстаячай сэсіі райсавета рэкамендавана было адмяніць ужо знаёмае нам рашэньне выканкама аб вызваленьні М. Ярмоліка. Зьвернута таксама ўвага выканкама райсавета на мэтазгоднасьць перагляду ім уласнага рашэньня адносна будаўніцтва дома для І. Чартка. Прапанавана разьмеркаваць жыльлё згодна заканадаўству сярод пэдагогаў, якія стаяць у чарзе на атрыманьне кватэры...

Аднак старшыня райвыканкама М. П. Дзянішчык заўважыў літаральна наступнае: «Камісія вабласнога ўпраўленьня ставіць пад сумненьне нашы ацэнкі, а мы — яе»...

— Ярмоліка я ведаю даўно, і паважаю яго. Але вось ніяк не магу зразумець, што адбылося,— гаворыць дырэктар Старасельскай НСШ Г. І. Прымачак.— Так абысьціся з чалавекам — надта жорстка. Калі той гэтага заслугоўвае, дык чаму не звольніць па ўласным жаданьні? Міжволі думаеш: а раптам з табой такое можа здарыцца? Старшыні райвыканкама я папрасту сказала: «Мікалай Паўлавіч, я вас перастала разумець і цяпер баюся вас»...

Свае слабінкі, недахопы ёсьць, напэўна, у кожнага з нас. Не выключэньне ў гэтым і Мікалай Ярмолік. І сапраўды. Калі былі ў загадчыка райана сур'ёзныя пралікі ў рабоце, дык чаму своечасова не спытаць было зь яго за гэта. Так, на Ярмоліка да гэтага часу неаднаразова накладваліся спагнаньні. Але зноў парадокс: камісія аблуна, уважліва прааналізаваўшы кожны выпадак, прызнала гэтыя спагнаньні неабгрунтаванымі.

Між іншым, М. Ярмолік двойчы, у сакавіку 86-га і ў лістападзе 89-га, пісаў на імя старшыні райвыканкама заявы з просьбай вызваліць ад займаемай пасады па ўласным жаданьні. І кожны раз яму казалі: не пары гарачкі, ідзі і працуй. Незразумела толькі, для чаго трымае старшыня райвыканкама гэтыя заявы ў асобнай папцы — для гісторыі ці каб памахаць імі ў паветры?..

**У. ТОМЧЫК,**
**Зэльвенскі раён.**



**На здымках: кінарэжысёрка з Францыі І. Зобэрман і вядомы актор Д. Альбрыхскі (на кані). Фота Б. Мешчаракова.**

# СТРУМЕНЯХ ПРЫПЯЦІ

Дзесяцігодзьдзямі ўкраінскі лес, камень, карысныя выкапні транспартуюцца нашай ракой. Вельмі ўжо шмат шкоды нанесьлі й наносяць яны на нашых рэках. Але ўсё па парадку...

Прыпяць — рака суднаходная на працягу 7 месяцаў, яе рэчышча глыбокае і дазваляе рух грузавых адзінак вадаёмістасьцю да 1000 тон. Уявіце сабе такі караван зь пяці-шасьці баркаў, які цягне рачным ручвом магутны буксір. Яго даўжыня — некалькі соцень мэтраў, а да апошняй на даўнім ланцугу прычэплена валакуша. Баркі рухаюцца, на вузкіх паваротах б'юцца аб берагі, руйнуючы іх, а валакуша, у сваю чаргу, нішчыць дно ракі. Каб было зручна рухацца гэтым караванам, рэчышча Прыпяці неаднаразова прамавалі, толькі на гэтым участку перакопаў болей за дваццаць. Апошні зь іх зроблены ў часы перабудовы, ён мае даўжыню 1000 мэтраў.

Але ж, ствараючы спрыяльныя варункі чужому грузавому флёту, ніхто не патурбаваўся лёсам ракі. А яна значна паплытчэла і пачала сама сябе ратаваць, ствараючы на сваім спрамаваным шляху перакаты, але й гэта не выратавала яе. На перакаты прыйшла тэхніка, якая хутка зьліквідавала іх, адправіўшы намыты пясок на будоўлі.

Вось так з года ў год і змагаецца ў адзіноце пакутніца Прыпяць супраць чалавечай безгаспадарчасьці. На жаль, чалавек перамагае, а вынік яго перамогі — зьнішчаная флёра й фауна прыпяцкай поймы. Таму й нядышоў час атрымліваць кампэнсацыю ад тых, хто карыстаецца нашай тэрыторыяй, каб хоць як-небудзь зьменьшыць шкоду й страты.

II.

Наша маторка зноўку ідзе ўніз па вадатоку. Наперадзе — першы вялікі горад Пінск. Тут у Прыпяць уліваецца вялікая рака Піна. Недзе на ёй нясе вахту мой сябрук Валяньцін Манкевіч. Робім лева руля і ўжо імчым па струменях Піны. Абапал цягнецца Пінскі порт, за партом — суднабудаўнічы завод, у доках якога будуецца шмат сучасных грузавых цеплаходаў. Але не гэта ўразіла. Нам зноўку сустракаюцца сухагрузы пад жоўта-блакітным штандарам. Чырвона-чорныя буксіры цягнуць велізарныя баркі.

Сустрэча зь сябрам дзяцінства заўжды прыемна, але на гэты раз Валяньцін заклапочаны, і клопат у яго, можна сказаць, дзяржаўны. Ён паказвае на буксір і распавядае: «Дзесяць год працую тут на Днепра-Бугскім канале і ўвесь гэты час украінскія рудавозы цягаюць па нашай вадзе жалезную руду ў Польшчу. Адтуль ідуць паражняком, а мы для іх чысьцім роўнае ручво, ладзім інфармацыйнае абслугоўваньне. З боку падаецца, што працуем для беларускіх рачнікоў, але гэтым шляхам карыстаюцца і іншыя, пры тым яшчэ й бясплатна. Куды глядзяць вочы нашых міністраў? За карыстаньне Днепра-Бугскім водным шляхам незалежная Беларусь атрымлівае толькі бруд, а магла б атрымаць за паслугі нават валюту».

Вяртаемся на Прыпяць і імкнем далей. За Пінскам рака значна шырэйшая, але па берагах амаль няма лесу. Яго зьнішчылі мэліяратары. Каля дваццаці гадоў яны ператварылі край з адметнай прыродай у мяса-малочную фабрыку. Што атрымалася?..

Ля Мазыра сустракаем вайсковыя караблі, іх многа. Тут праходзяць вучэньні Пінскага цэнтру вайскова-марской падрыхтоўкі. На караблях іншаземныя сьцягі, яны таксама належаць іншай дзяржаве. Сумна было назіраць, як яны «гаспадараць» на нашай зямлі і іх ніхто не спыняе. Бо відаць, што нашае партнамэнклятурнае кіраўніцтва няздольна дзейнічаць па-дзяржаўнаму. І пакуль яно мае ўладу, нашымі рэкамі, зямлёю будуць карыстацца іншыя, разбураючы прыроду і пры гэтым нават не турбавацца, што зь іх хто калі — кольвечы нешта спытае.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

РЭПЛІКА

## ЗАБЫЎЧЫВАЯ КІНАСТУДЫЯ

***У Горадні кінастудыя «Беларусьфільм» побач з Новым і Старым замкамі рабіла здымкі новага фільма. Для гэтага спатрэбілася асфальтаваныя дарогі засыпаць жвірам. Пасьля заканчэньня здымкаў гэты жвір кінастудыя чамусьці забылася прыбраць.***

***Я узгадваю, як, наведваючы замак і сховішчы Львоўскай карціннай галерэі ў Алеску на Украіне, пачуў ад дырэктара гэтай галерэі Б. Вазьніцкага наступнае. Здымаючы каля Алескага Замку фільм «Дзікае паляваньне караля Стаха», калектыў «Беларусьфільма» забыўся забраць з сабою арыгінальныя драўляныя скульптуры XVII — XVIII стагодзьдзяў, якія, дарэчы, паводле словаў Вазьніцкага, паходзяць з Гарадзеншчыны. Дзякуй богу, дырэктар забраў іх (некаторыя былі ўжо пашкоджаныя) ў сховішча. На Украіне «Беларусьфільм», забыў каштоўныя творы беларускіх майстроў, а ў Горадні забыўся прыбраць сьмецьце.***

***А. СТУПЕНЬ.***

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



**АЛЕСЬ ЧОБАТ**

# КРЭСАВЯК

**ЭСЭ**

*Сярод віленчукоў міжваеннай пары — Рыгор Шырма і Антон Луцкевіч, Чэслаў Мілаш і Максім Танк, браты Станіслаў і Юзэф Мацкевічы...*

I.

Юзэф Мацкевіч нарадзіўся ў 1902 годзе ў С.— Пецярбурзе. Бацька гандляваў віном, меў уласную фірму і квітнеў. У 1907 годзе Мацкевічы пераехалі да Вільні. Тут Юзэф і на шэсьць гадоў старэйшы брат Станіслаў вучыліся ў прыватнай расейскай гімназыі Вінаградава, што насупраць касьцёлу Сьв. Кацярыны. У 1915 годзе, ужо пры немцах, навука працягвалася ў польскай гімназіі праф. Касьцялкоўскага. У канцы 1918 году ў Вільні ўтварылася ўзброеная «Самоборона Віленьска», дзе ў кавалерыі Дамброўскага сярод добраахвотнікаў былі абодва Мацкевічы. Зімой 1919 году «дамбравяцы» партызанілі паміж Віліяй і Прыпяцьцю аж да пачатку польскага наступленьня. На фроньце Юзэф быў да вясны 1921 году. У наступныя гады ён дакончыў школу, атрымаў чын падхарунжага, нават паступіў на біяфак Варшаўскага Унівэрсытэту, але вярнуўся да Вільні, дзе паступіў ў рэдакцыю выдаванай братам газэты «Слова» і працаваў там да апошняга нумару, які выйшаў 15 верасьня 1939 году...

Станіслаў праз Коўна выехаў да Англіі, Юзэф застаўся. Пры летувіскіх уладах да лета 1940 году разам з Ч. Мілашам выдаваў «Газэту цодзенну». Год пры Саветах хаваўся на хутарох паміж Трокамі й Беняконямі, быў лесасекам і фурманам. Пры немцах браў удзел у раскопах магілаў польскіх ахвіцэраў, растраляных НКВД у Катыні. У 1943 годзе віленскі аддзел АК вынес Ю. Мацкевічу сьмяротны прысуд, які, на шчасьце, ня быў выкананы. У 1944 годзе Юзэф здолеў дабрацца да Італіі й перайсьці фронт, да канца вайны быў у корпусе гэнерала Андэрса. Потым стала жыў у Лёндане, друкаваўся ў газэтах і часопісах, рэдагаваных Станіславам. «Тоўстыя» кнігі Ю. Мацкевіча рэгулярна выходзілі з 1955-га ажно па 1980 год. Кожная зь іх была падзеяй, выклікала скандал у Польшчы і на эміграцыі. Памёр Ю. Мацкевіч у Мюнхэне 31 студзеня 1985 году. Нікога гэтак не чыталі, але й нікога так не лупцавалі, як Ю. Мацкевіча — «крэсавякі», камуністы, андэрсаўцы, эмігранты, «улады народнай Польшчы», касьцёл, Ватыкан, інтэлігенцыя...

Чаму і за што?

II.

Перакананьні Ю. Мацкевіча не адпавядалі яго эпосе — бурліваму саракагодзьдзю 1914—56. Эўропа віравала ад войнаў, рэвалюцыяў, ідыялёгіяў, межаў, рэжымаў... А Юзэф Мацкевіч заставаўся даўнім традыцыйным віленчуком, які разумеў «польскасьць» і «Польшчу» не як нешта вышэйшае, звышчыстае, абсалютнае, лепшае, чым «у хамаў», але традыцыйна — як даўнюю Рэч Паспалітую, дзяржаву «абодвух», а па сутнасьці многіх народаў. Зімой 1940 году ў «летувіскай» Вільні ён пісаў: «Краёўцамі клічуць нас не ад учарашняга дня. Так, мы — палякі. Але палітычных сяброў маем сярод беларусаў і летувісаў, а некалі мелі сярод украінцаў. Край наш шырокі і доўгі, як даўняе Вялікае Княства Літоўскае...». І яшчэ з той жа зімы: «У верасьні 1939 году «Кур ´ер Віленьскі» пісаў, што вайна, аказваецца, гэта «трыумф польскай зброі над прускай тупасьцю». А наступнага нумару ўжо ня было — з той прычыны, што Польшча страціла незалежнасьць. Здавалася б, што крывавы ад верасеньскай вайны месяц павінен хоць троху прасьвятліць споўненыя памылкі, нацягнуць нэрвы, абудзіць ад ружовага сну, паказаць сутнасьць нашай існасьці... Дзе там! Сядзім сабе збоку й слухаем, як на другім месяцы вайны 4-мільённая Фінляндыя перайшла ў наступленьне й гоніць Чырвоную Армію. А мы далей топчамся па выцертых сьцежках, ад аднаго табу да другога. Тое, што я пішу, палічаць блюзьнэрствам і крыміналам — і палічаць пурытане фікцыйнага патрыятызму...».

III.

Цяпер такое ўражаньне, што бальшавікі ўсё жыцьцё хавалі свае расстрэлы ў Катыні, а палякі ўсё жыцьцё ня верылі ім, ды яшчэ іх выкрывалі. Каб жа так! Існавала моцнае перакананьне, што віной усяму немцы, што на НКВД усё імкнецца зваліць гэстапа. Польскае радыё з Лондану штодзень гаварыла, што Сталін шчыры саюзьнік, што бальшавікі ўжо другія, што адродзіцца за згодай СССР і саюзьнікаў пасьля вайны незалежная Польшча. Людзі верылі — гэта было справядліва і, галоўнае, прыгожа...

А нейкі Ю. Мацкевіч — пры немцах! — пісаў абсалютна супрацьлеглае: ня будзе ніякай Польшчы, будзе акупацыя, Сталін і Рузвэльт ужо падзялілі сьвет, Гэрманія адыдзе «заходнім дэмакратыям», а Польшча — «саветам»...— «Здрайца!» — пляваліся віленскія патрыёты, не гаворачы ўжо пра варшавякаў.— «Здрайца!» — рвалі на кавалкі артыкул Ю. Мацкевіча пра паездку ў Катынь і раскопы магілаў расстраляных палякаў — раскопы ж тыя рабілі немцы... Такога быць ня можа, таму што такога ня можа быць. Ах, людзі, людзі, наіўнякі, шляхцюкі... Колькім з вас гэтая наіўнота каштавала жыцьця! Гэнералы АК, трапіўшыя летам 1945-га на «маскоўскі працэс», далі сябе злапаць, як шчанюкі: самі паехалі ў савецкі штаб «на перамовы»...

А цяпер, як у часы Мацкевіча, пра савецкія злачынствы пагаварыць любяць, а пра ўласную глупоту неяк ня надта. І ўсё паўтараецца...

IV.

Мацкевічам абураліся ня толькі тут. У 1957-м выйшла яго кніжка «Контра» пра тое, як пасьля вайны войскі НКВД і полк шатляндцаў брытанскіх узброеных сіл разам ажыцьцяўлялі высылку казакаў з Баварыі на Сібір. Казакаў тут жа на месцы расстрэльвалі, вешалі на фартэпіянных струнах, білі на сьмерць разам зь дзецьмі й жонкамі... У брытанскім парляманьце падняўся гвалт: быць ня можа! мы — пуп дэмакратыі! дайце дакумэнты!.. Далі. Аказалася — праўда. Справу хуценька замялі, як у іх, у нас, кругом і заўсёды.

V.

У двух словах варта памянуць і кніжку «Справа палкоўніка Мясаедава». Гэта пра вайну 1914 году, калі немцы разьбілі ва Усходняй Прусіі арміі Самсонава і Рэнэнкапма. Павешаны палкоўнік — «шпіён» быў, як высьветліў Ю. Мацкевіч, ахвярным казлом... На самай справе расейцаў падвяла не здрада, але адвечная расейская дурата: немцы карысталіся радыёкодам, а расейцы валілі адкрыта. І загнаў два корпусы ў пастку, зь якой ня выйшаў ніводны жаўнер. «Вялікія» пісьменьнікі В. Пікуль і А. Салжаніцын, якія пісалі на тую ж тэму, нідзе словам не памянулі, што да іх ува ўсім грунтоўна разабраўся «какой-то поляк»...

Але чаму Ю. Мацкевіч раптам палез у «чужую» гісторыю? А таму, што ніякая яна не чужая. Армія Самсонава стаяла на поўнач ад Варшавы, армія Рэнэнкапма ў раёне Вільні. Беларусаў, жыдоў, палякаў, «крэсавякаў» ў гэтых арміях былі тысячы, і тысячамі яны палеглі на Мазурах...

VI.

Пік папулярнасьці Ю. Мацкевіча прыйшоўся на другую палову шасьцідзесятых гадоў. У 1965-м убачыла сьвет «Лева вольна!» — пра савецкапольскую вайну 1919-20 гадоў, пра адступленьне палякаў ад Бярэзіны да Віслы.— «Лева вольна!» — гэта ці то кліч, ці то каманда ўланаў, якія стрымгалоў несьліся на захад па разьбітых беларускіх дарогах, сьпіхаючы на бок фурманкі ўцекачоў. Палякі пакідалі бальшавікам палякаў...

Кніжка тоўстая і шматсюжэтная. Пераказваць яе няма сэнсу, варта адзначыць найбольш цікавыя моманты. Так, Мацкевіч піша пра дзьве «крэсовых» дывізыі — 19-ю і 22-ю — пры гэтым называе іх... беларускімі! Гэтыя дывізыі былі набраныя па мястэчках і вёсках ад Віліі да Нёмана. Нашы дзяды й прадзеды біліся й гінулі пад іх штандарамі, нашы дзяды й прадзеды не пускалі бальшавізм у Эўропу... А цяпер бяспамятнае «чмо» выцягне са скарбаў старую жаўнерскую кніжку й кажа: глядзі сынок, прадзед твой быў у польскай арміі, то значыць, мы палякі... Мацкевіча на вас няма, яснэ паньство!

Абурэньне «патрыётув» выклікала рэзкая крытыка Ю. Мацкевічам кананізаванага «дзядка: Ю. Пілсудскага... Ю. Мацкевіч абвінаваціў пана маршалка, між іншым, у тым, што той абсалютна сьвядома, з халоднай крывёй прадаў «саветам» ня толькі палякаў з-пад Дняпра ці Бярэзіны, але пакінуў нават частку раёнаў, ужо занятых польскай арміяй. Пры гэтым палякі кінулі чатыры дывізыі Пятлюры на Валыні, корпус Балаховіча на Палесьсі і Слуцкую дывізыю, якія працягвалі барацьбу... Ю. Мацкевіч лічыць, што вайна павярнулася б абсалютна па-другому, каб Пілсудзкі не трымаў польскую армію на Бярэзіне летам 1919 году, калі пад Арлом і Варонежам узаемна вынішчаліся Дзянікін і Троцкі. Справа, аднак, выглядала хіба ўсё ж складаней, чым здаецца Ю. Мацкевічу...

Летам 1919 году да Дзянікіна прыязджалі двох парлямэнтарыяў ад Пілсудзкага; гэнерал Карніцкі, так бы мовячы, магнат і рэакцыянэр, а потым зацяты сацыяліст... Ежы Іваноўскі! Так-так, гэта той самы Юрка Іваноўскі, брат Вацлава й галоўны разам зь ім фундатар выдавецтва «Загляне сонцэ ў нашэ ваконцэ»! Дарэчы, Іваноўскія — тыповыя «крэсавякі». Бацька быў «офицер русской армии» ды «истинный патриот». Вацлаў — беларускі нацыяналіст. Юрка-Ежы — нацыяналіст, але польскі. А Тадзік дакаціўся да таго, што ўвайшоў як сьвяты да летувісаў пад імем Тадаса Іванаўскаса... Дык вось, гэнерал Дзянікін адказаў ім абодвум: «Калі хочаце мець Польшчу, то толькі ў межах паводле Венскага Кангрэсу 1815 году, ды ў цесным саюзе з Расеяй». Прыблізна тое ж мы чуем цяпер ад «гаспадзіна» Ельцына, тут расейцы ня дзеляцца па партыі. І таму Пілсудзкі Дзянікіну не дапамог. Ня бачыў сэнсу.

Але «дзядэк» ня меў выбару! Сапраўды, нешта накшталт вуніі Польшчы зь нечым накшталт ВКЛ было б не па зубах ні Расеі, ні Гэрманіі. У гэапалітыцы законы такія ж, як у матэматыцы. Але яшчэ ёсьць псіхалёгія... Паляк з цэнтральнай Польшчы ці Галічыны бачыў сябе на ўсходзе выключна носьбітам каталіцтва ды эўрапэйскай культуры, місіянэрам, прарокам. «Роўныя з роўнымі, вольныя з вольнымі!» — гэта быў лёзунг для дурачкоў — тых, хто быў павінен за гэтыя абяцанкі паміраць у гонар «вялікай Польшчы». Другая Рэч Паспалітая магла быць толькі такой, якой была...

А Мацкевіч быў віленскі інтэлігент. Ён абсалютна спакойна ўспрымаў і нас, і летувісаў, і жыдоў, і ўкраінцаў — гэтак жа спакойна другі віленчук Чэслаў Мілаш піша пра тое, што Вільня ня ёсьць ні Вільно, ні Вільнюс, што гэта старажытны горад менавіта праваслаўнай культуры і, максімум, можа разглядацца як польскі ці часткова польскі анклаў, чым даводзіць да шалу каталіцкіх прафэсараў у Любліне, а таксама нэафітаў — «палякаў» зь Вільні, Ліды і Горадні...

Такіх віленчукоў больш няма. Парода вывялася.

VIII.

У 1969-м выйшла мацкевічава «Ня трэба гаварыць у голас» пра Вільню часоў нямецкай акупацыі 1941—44 гадоў. Гэта кніга пра нямецкіх, польскіх, беларускіх, летувіскіх дзеячоў таго часу, адначасова яна пра лёсы маленькіх людзей, якія гінуць, і не разумеюць, ад чыіх рук, за якую ідэю, дзеля чаго... На вайне — як на вайне.

Вяртаючыся да місіянэрства палякаў, варта адзначыць пададзены Ю. Мацкевічам эпізод пра тое, як каталіцкі польскі касьцёл зімой 1941—42 году патаемна ад немцаў выпраўляў на... ўсход, сьледам за нямецкай арміяй ксяндзоў-дабраахвотнікаў! Каб несьці ці то веру Хрыстову, ці то польскі дух... Натуральна, што палявалі на іх і партызаны, і парашутысты з НКВД, і гэстапа, і паліцаі ўсіх плямён і народаў. І натуральна, што ніхто з тых ксяндзоў не вярнуўся, а сярод іх былі, напрыклад, кс. Глябовіч альбо езуіт Антон Сьвятаполк-Мірскі... І натуральна, што цяпер касьцёл такое ўспамінаць ня любіць. Чаго было гнаць людзей на верную сьмерць?! Які быў у тым сэнс? А ніякага. Проста гэтая польска-каталіцкая зацятасьць дайшла да інстынкту, да злосьці, да глупоты... А мы ў чарговы раз слухаем байкі пра мараль, пра духоўны падмурак, пра нейкае там адраджэньне! Ну, ну...

**(Працяг будзе.).**





Рэспубліка Беларусь.
230 023, г. Гродна,
вул. Кірава, 32,
фірма «АКМА»,
факс 44-84-42.

(015-2) 44-95-60

АДДЗЕЛ АРХІТЭКТУРЫ І ДЫЗАЙНА



праэктаваньне жылых і грамадзкіх будынкаў (новая архітэктура ад накіда да чарцяжа)

(015-2) 44-83-33

АДДЗЕЛ МІЖНАРОДНАГА ТУРЫЗМУ



падарожжы, гандлёвыя туры, адпачынак і лячэньне (эўрапэйскія і азіяцкія маршруты, прыём у Гродна)

(015-2) 44-95-60

ТВОРЧАЯ КАВАЛЬСКАЯ МАЙСТЭРНЯ



адраджэньне традыцый, творы кавальскага рамяства (архітэктурны дэкор, пабытовыя рэчы)

ПРАВАВЫЯ КАНСУЛЬТАЦЫІ, ЮРЫДЫЧНАЕ АБСЛУГОЎВАНЬНЕ

«АКМА» ЗАЎЖДЫ ГАТОВА ДАПАМАГЧЫ


© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# РАЙ НА ЗЯМЛІ

АПАВЯДАНЬНЕ



*Лявон Вашко з адукацыі журналіст, а паводле самаадчуваньня — літаратар. Зьезьдзіў на пяць год у Менск, атрымаў дыплём, ды вярнуўся назад у свае Масты. Працаваў у мастоўскай раёнцы, у карэліцкай, потым у тых жа Мастах, але ўжо ў якасьці ўласнага карэспандэнта вабласной газэты. Мусіў езьдзіць па фэрмах «вучыць» заатэхнікаў даглядаць каровы. Вернецца дахаты й сілком выціскае зь сябе нікому не патрэбныя радкі. Сумна. Але затое з тых паездак у вёскі быў іншы плён — пачутыя ад вяскоўцаў праўдзівыя беларускія гісторыі, якія Лявон выкарыстоўвае ў сваіх апавяданьнях. Так і жыў у Мастах, у бацькоўскай хаце: паліца з кніжкамі, пісьмовая машынка «Юніс», пачак белай паперы; яблыневы сад, прысады, сьцежка, разьбіты ліхтар, стромы бераг Нёмна.*

*Але шляхі большасьці беларускіх літаратараў кіруюць у Менск. Апынуўся тамака й Лявон, але ўсё адно чалавекам ён застаўся нашым, гарадзенскім. Гэтае апавяданьне ўзята намі з падрыхтаванага да друку альманаха літаратурнай Гарадзеншчыны «НЕМАНІНА».*

С. А.

Некалькі разоў у сваім жыцьці Антось Новік спрабаваў завязаць гальштук на шыі, ды нічога добрага з гэтага не атрымлівалася. Адно пена з роту пайшла, у вачах сьцямнела, ды прыгадаліся сустрэчы з паліцыянтам Байдою. Так ніхто і ніколі ў гарадку не ўбачыў гэтага высокага зграбнага чалавека пры гальштуку. А ўсё праз Шурыка Новіка — Антосевага бацькі — які калісь спавіў свайго сыночка вяроўкаю, а потым сунуў галавою ў пятлю, што прымайстраваў у садзе за хатаю на суку старой яблыні. Дужа калаціла тады Шурыка, які казаў:

— Ну дык што, камсамольскае ты дзярмо, кэпэззэбовец абасраны! Задушу, сволач, пакуль малы! Усё роўна чалавека зь цябе ўжо ня будзе.

Антосю ўсё адно — ці ў камсамол, ці ў баптысты. Малеча яшчэ. Восем гадоў. Мала што цяміў. Паміраць страшна было: ванітавала, галава кружылася, плакаў ён ды енчыў. Добра, што сусед Грышка Каўтун прыбег, адбіў. Каб ня ён, дык Антось за хвіліну пайшоў бы на той сьвет. Выцягнуў сусед малога зь пятлі, а Шурык стаіць каля яблыні, пралівае сьлёзы ды гудзе сваю песьню:

— Ня будзе зь яго чалавека! Старэйшы па астрогах пайшоў, і малодшы з маленства злодзеем зрабіўся. За што мне такое пакараньне?

Антось верашчыць:

— Мяне падвучылі! Ня буду я болей анікол і гэтак рабіць!

Канешне, сам бы ён да гэткага не даўмеўся. Падвучылі. Камсамольцы Аляксей Батрак ды Есіп Фрыдман. Сустрэлі неяк на вуліцы яго.

— Справа ў нас да цябе, таварыш,— ціха сказаў Есіп Фрыдман.— Давай адыдземся троха. Штуку цікавую пакажу.

Яны ськіравалі ў бок Нёмна і хутка выйшлі на стромкі бераг. Аляксей Батрак паўзіраўся навокал: людзей нідзе не было.

— Вось. Глядзі,— Есіп Фрыдман дастаў з унутранай кішэні палітона рэўнаган і працягнуў яго Антосю.— Выдатная штука. За дапамогай яго ты можаш адпомсьціць за свайго брата, які ў астрозе сядзіць.

Антось узяў рэўнаган і зь цікавасьцю пачаў яго разглядаць.

— Падабаецца? — запытаўся Аляксей Батрак.

— Так,— адказаў Антось.

— Твой брат гэтак казаў: калі хочаш адолець каго-кольвек, бярыся за зброю. Клясавы вораг проста ўладу не аддае. У нас ёсьць мэта. Мы будуем рай на зямлі, і ты павінны нам дапамагчы. То будзе рай без папоў, без клясаў, без злодзеяў, рай, дзе кожны чалавек роўны сярод роўных. Ты разумееш, пра што я кажу?

— Троха разумею,— няўпэўнена адказаў Антось.

— Вось і добра,— прамовіў Есіп Фрыдман, выцягнуў з кішэні кулёк з цукеркамі, даў іх Антосю.— Зараз трэба, каб ты дапамог нам у адной справе. Адпомсьці за брата.

— Якім чынам?

— Мы вырашылі: трэба падстраліць нашага папа. Каб народу галаву не зяліў.

—Майго брата за лістоўкі з адозвамі пасадзілі, а не за яго.

— Нічога ты ня цяміш. Твой брат супраць папоў. Ня было б іх, не пасадзілі б твайго брата. Вось і трэба кулю пусьціць. Няхай закрыюцца, сволачы, і не страшаць нас боскай караю. Ты маленькі, табе нічога не будзе. А гэта галоўнае: мы і за брата адпомсьцім, і сябе захаваймa для будаўніцтва раю на зямлі.

Антось доўга не згаджаўся, але ўрэшце ўгаварылі яго. Ён ськіраваў дахаты, зьеў, (каб ніхто ня бачыў) дзьве цукеркі, астатнія загарнуў у анучку і схаваў пад ложкам. Наступнага дня ранкам, як дамаўляліся, ён прыйшоў на стромкі бераг Нёмна. Есіп Фрыдман чакаў яго. Ён перадаў невялікі скрутак паперы.

— Ён тут зараджаны, таму нясі асьцярожна. Посьпеху табе, таварыш.

Антось ськіраваў да касьцёла. Разам з хваляваньнем у душы хлопчыка існавала невядомае дагэтуль пачуцьцё — пачуцьцё еднасьці зь велічнай справай, зь небясьпечным і цяжкім будаўніцтвам раю на зямлі. Ксяндза ён убачыў здалёк. Той убіраў лісьце каля муроў касьцёла. Яму дапамагала колькі чалавек. Антось падышоў да ксяндза ды прамовіў:

— Айцец сьвяты, у мяне да вас ёсьць пільная патрэба сказаць нешта. Выслухайце мяне, калі ласка, то не доўга.

—Ну, як пільна трэба, дык гавары,— ён паклаў руку на плячук хлопчыку, і яны адышліся падалей ад мужчын і жанчын, што падграбалі восеньскае лісьце.— Я слухаю цябе.

Антось хутка выхапіў рэўнаган са скрутку.

— Падыхай, папоўскае падла,— крыкнуў ён, прыткнуў да грудзей айца рэўнаган і сваім васьмігадовым пальчыкам націснуў на курок.

Ксёндз паваліўся. Два блакітныя вокі спыніліся ў шырока раскрытых вейках. Са спалоханым тварам ён ляжаў на сьпіне і пазіраў мёртвымі вачыма ў нябёсы. Антосю зрабілася страшна. Рэўнаган выпаў з рук. Хлопчык убачыў, як да яго бягуць дарослыя. Яны наблізіліся, і нехта стукнуў яго па галаве. Антось паляцеў на зямлю.

— Ня біцеся! — закрычаў ён.— То камсамольцы мяне падвучылі!

Але яны не паслухаліся ніякіх просьбаў, і хутка хлопчык страціў прытомнасьць. Яго падабраў каля касьцельнай агароджы Шурык Новік і панёс дахаты, каб павесіць.

Гэткую невясёлую гісторыю Антось Новік часта згадваў. Тады яму рабілася млосна, гэтаксама млосна, калі гальштук спрабаваў завязаць, і ён хаваўся ад людзей у істопцы, што стаяла на падворку непадалёк ад хаты. Аднойчы Антосіха, ягоная жонка — мажная баба з рудымі валасамі і пунсовымі шчокамі — асачыла, чым ён займаецца ў істопцы. Яна нячутка падышла да дрэнна зачыненых дзьвярэй і ўбачыла, як Антось стаіць на каленях перад невялікім крыжом ды чытае малітву. Антосіха ніяк ня мусіла пачуць, пра што ён гаворыць: муж маліўся нягучна і хутка. Ды й калі б жанчына пачула ўсе словы, яна наўрад ці што-небудзь зразумела, бо Антось звяртаўся да Спадара Уратавальніка ня розумам. У звычайныя словы ён укладаў асаблівы, зрузумелы толькі яму самому сэнс, а ў вачах тым часам не зьнікалі карціны: акрываўленае цела сьвятога айца і ўвесь у сьлязах бацькаў твар, твар чалавека, які адкрыў для сябе жахлівае. Ягоны сын — блюзьнер і забойца. І толькі некалькі слоў злавіла Антосіха сваім небальшэнькім з залатой завушніцай вушкам. Гэтыя словы ўзрушвалі Антося, мабыць, больш за ўсе астатнія, бо паўтараў ён іх некалькі разоў. Жанчына яўна пачула, як у сутоньні істопкі сьпешна прагучала:

— ... Рай на зямлі, рай на зямлі...

ЛІТАРАТУРНАЯ ЭМІГРАЦЫЯ

А. САКОВІЧ

## У НЯВЕДАМ'Е

Тамара пачырванела, радасна ўсьміхнулася й сказала:

— Ведаеце, і я аб Казіку думала, калі там была... Ну... дык прывялі мяне. Пабачылі хлапцы, абступілі, навінаў пытаюцца, жартуюць... А там спакой, цішыня. Я й кажу: «Ну, хлапцы, падобна, што вы на вакацыях у Закапаным апынуліся». А Васілеўскі, памятаеце, той сэмінарысты, што летась выстаўку сваіх малюнкаў рабіў, дый кажа: «Памыляешся, Тамара, не ў Закапаным, а на Ноевым Каўчэзе. У нас тут усялякае твары па пары. Глядзі, у нас нат і каза ёсьць». А гэта да іх із Сіняўкі з-за Нёмну старая бабка Самусловічыха з казой прыцягнулася. «Хлопчыкі вы мае,—прасілася яна,—застануся я пакуль тут з вамі, з паўстанцамі. Ліха яго ведае, што гэта на сьвеце Божым робіцца. Гэта ж гэтых маскоўскіх валацугаў на Сіняўку нямаведама колькі зь неба насыпалася. Яны ж Бога ня маюць, яны мяне, старой, не пашкадуюць, яны ж маю казу зьесьці могуць».

— Ой,— неспадзеўкі для сябе ўпершыню за гэтыя поўныя безнадзеі й непакою дні разсьмялася Ванда: — дык я ж гэтую Самусловічыху знаю. Яна нам казіны сыр прадаваць прыносіла, калі я зусім яшчэ малая была. І тады яна выглядала год пад сто.

— Ну, ну, дык гэта, відаць, тая самая,— сьмяялася й Тамара.— Але яна разумная й справядлівая старая. Ёсьць там у лесе маленькая жыдовачка, у веку Ялінкі, дык бабка песьціць яе, шкадуе як родную. Але ж і худзенькая, ціхенькая гэная малая. Сама рыжанькая, вочкі чорныя, перапалоханыя, насок, што вераб'інае яечка, у кропельках. На лобе й павеках сінія жылкі сьвіцяцца. Бачыце, жыды з Гэта як падкоп зрабілі, дык у лес паўцякалі. Але й там ім ня дужа вялося: партызаны білі. Відаць, як уцякалі ад партызанаў, малую й згубілі. Недзе яе нашыя хлапцы ледзь жывую з голаду пад кустом нагледзелі. Як прынесьлі, першыя дні ані не гаварыла й толькі ў сьне схліпвала, «мамэлэ» клікала.

— Бедная малая,— з жалем праказала Ванда.

— Цяпер ужо дармо, троху прызвычаілася, да мяне нат колькі разоў усьміхнулася. Шкадуюць яе там усе. Прабыла гэта я там блізу цэлы дзень. І, даяцё веры, тамака так хораша, што адыходзіць не хацелася. Але трэба было сьпяшацца ў Н., каб пашпарты новыя нашым хлапцом у гэбіткамі сарыяце павырабляць, пакуль нашыя людзі йшчэ працуюць там, і немцы бляанкі ды пячаткі не панішчылі. Вось таму ўчора цэлы дзень і сяньня зрана я там і пратаўклася. Чакала, пакуль Вера й Ганя, што працуюць за перакладнічак, паціху ад немцаў ня вырабілі пашпартоў.

— А хіба ў гэбіткамі сарыяце яшчэ ўрадуюць?

— Пэўна! Толькі заўтра ўвечары немцы пакінуць места. Тады толькі батальёнцы застануцца. Але й яны ўжо маюць загад адыходзіць,— із сумам казала Тамара.— А што ўчора каля гэбіткамі сарыяту дзеялася! Вазы з уцекачамі цягнуліся бязконца. Кажуць, мястэчка Мір усе людзі да апошняга пакінулі, з Турца таксама ўсе выехаўшы й мястэчка падпалілі, каб бальшавікам не пакінуць. Каля ваяводзтва натоўп чакае на прапускі. Гляджу, стаіць збоку наш Складанчык.— Сказала «Складанчык», пачырванела й вінавата ўсьміхнулася.— Выбачайце, стаіць наш настаўнік Раковіч,— паправілася яна.

— Дармо, Тамара,— супакоіла яе Ванда: — мянушку гэтую ён яшчэ, калі я вучылася ў гімназіі, меў, і сам, здаецца, яе добра ведае. Не абражаецца. Мілы чалавек!

— Як мы яго любілі! Як ён цікава выкладаў гісторыю! Прывіталася я зь ім і пытаюся: «Едзеце, спадар настаўнік, ці застаняцёся? » Паглядзеў ён на мяне, усьміхнуўся дый кажа: «Ехаць ня еду, а вось адыходзіць зьбіраюся». «Як, бяз рэчаў?» — пытаюся. «Усе рэчы, што маю — кнігі. Іх не забярэш. А ўлегцы рушыцца лягчэй»,— жартаваў ён. Папытаўся, ці нашыя едуць. Сказала, што нам няма якзь месца крануцца: сямёра дзяцей, я найстарэйшая, а наймалодшаму — два месяцы, ды бабуля. «Ну,— кажа,— сьцеражы вас усіх Божа. Увесну вы, Тамара, бліскуча матуральныя экзамэны склалі, а цяпер перад вамі экзамэн на жыцьцё. Глядзеце й запамінайце ўсё тое, што сяньня бачыце: заштра яно будзе нашым мінулым. Гэта жывая гісторыя рушыцца перад вашымі вачыма. Бывайце!» — махнуў ён рукою й пайшоў. Так і стаіць ён уваччу: сівы, худы, марынарка на лакцёх пацыраваная, чаравікі басанож,— задуменна, прыцішаным голасам казала Тамара, але раптам, глянуўшы на гадзіньнік, так замітусілася, што Ванда ад неспадзеўкі здрыганулася.

— Божа ж мой, як я забавілася. Ужо па першай, а мяне а трэйцяй чакаюць. Толькі як дабегчы засталося.

— І не баіцесё вы, Тамара, такім часам аднэй хадзіць?

— Страшна, пакуль у хаце сядзіш; а як у поле выйдзеш, дык і страху няма. Мая вёска недалёка. Гасьцінцам я не пайду. Нацянькі, полем, сьцежкамі. А там толькі свае людзі, бо немцы гасьцінцамі адыходзяць, а партызаны па вёсках і па мястэчках пакінутых парадкі свае наводзяць. Сваіх жа людзей мы спрадвеку не баімся.

— Вы на свой клуначак не забудзьцеся.

— Што вы, ніколі! Там у гаросе пашпарты хлапцом захаваныя. Вось каб вы які шнурочак мне далі, дык вельмі б вам дзякавала.

— А нашто ён вам? — папыталася Ванда, заўважыўшы, як Тамара хавае ў кішэню паданы кавалак шнурка.

— Бачыце,— хітра ўсьміхнулася Тамара,— хачу разумныя традыцыі дзядоў нашых захоўваць, як выйду ў поле, боцікі свае з ног да клуначка падвяжу ды праз плячо.

Ванда прапусьціла Тамару за браму. Узрушаныя, яны пацалаваліся на разьвітаньне.

— Мо апошні раз бачымся, хто ведае...— казала Ванда.

— Ня можна... Не кажэце так! — запярэчыла Тамара.— Хто мужны, хто моцна верыць, той перамагае. А я веру, моцна веру, што жыцьцё — нашае, што мы будзем ізноў усе разам. Вы не? — раптам папыталася яна.

Тамара глядзела Ваньдзе проста ў твар, і вочы ейныя былі суровымі й урачыстымі. Ваньдзе было сорам за безнадзейны й распачлівы настрой апошніх дзён ды сумна, што яна ня ўмела верыць, як юначка Тамара. Але яна адчула, як ад спатканьня з гэтай праўдзівай, поўнай маладой ахвярнасьці й станаўкосьці, дзяўчынай у яе адлягло на сэрцы.

— Веру,— адказала Ванда,— і я шчасьлівая, што мой брат вас кахае. Мне лягчэй яго пакінуць, ведаючы, што вы будзеце зь ім.

Тамарын твар зайрдзеўся.

— Дзякую, што вы так думаеце.

На рагу вуліцы, дзе Тамара мусіла завярнуцца, яшчэ раз азірнулася, радасна ўсьміхнулася Ваньдзе, уськінула руку ўгару й голасна гукнула:

— Жыве Беларусь!

— Жыве! — адказала Ванда.

**(Працяг будзе).**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



## НЁМАН ПЛЫВЕ У РАСЕЙСКІ ЧЭМПІЯНАТ

Усе спробы гарадзенскай каманды стаць на польскі лёд, як вядома, закончыліся правалам. Не ўдалося «Нёману» кінуць якар і ў Прыбалтыйскай лізе. Таму летам часова хакэйны клюб аказаўся на раздарожжы: дзе гуляць?

Пытаньне, на першы погляд, рытарычнае. Вядома ж, у нацыянальным чэмпіянаце Беларусі. Але ж справа ў тым, што ў рэспубліцы толькі тры крытыя пляцоўкі са штучным ільдом — дзве ў Менску і адна ў Горадні. Ды і сапраўдных камандаў можна на пальцах пералічыць. Да таго ж, менскае «Дынама» стала членам міжнацыянальнай хакэйнай лігі, нахштапт амэрыканскай НХЛ. Таму паўнавартыя спаборніцтва ў Беларусі сёньня аб ´ектыўна немагчымы.

Нічога не заставалася «Нёману», як папрасіцца ў расейскі чэмпіянат, тым больш ён загадзя быў аб ´яўлены «адкрытым». І вось у серадзіне верасьня хакэйны марафон рушыў. У адной групе з гарадзенцамі выступаюць таксама «Гарняк» (Аленягорск), «Дзясна» (Бранск), «Іжорац» (Колпіна), «Мэталург-2» (Чарапавец) СКА-2 (Санкт-Пецярбург), ШВСМ (Кіеў), «Эгіда» (Цвер), «Ярінтэрком» (Яраслаўль) і «Хімік» з Наваполацку.

Дарэчы, 27—28 верасьня пасьля 6-месячнага перапынку хакэй прыйдзе і ў Горадню. У гэтыя дні «Нёман» сустракаецца з «Дзясной».

## ЗАЛАТЫЯ МЭДАЛІ У «РЫТМА»

23 гульні брамы гарадзенскай каманды заставаліся «сухімі» і толькі ў апошняй сустрэчы жаночага чэмпіянату Беларусі нашы дзяўчаты прапусьцілі гол ад менскага «Камвольшчыка». Усё ж перамогу «Рытм» не ўпусьціў і перамог 2:1.

Менскія хакэісты засталіся на другім месцы, а «бронзу» атрымаў аршанскі «Тэкстыльшчык». Нядрэнна выступілі і яшчэ дзве гарадзенскія каманды — «Змена» і ВАР, якія занялі 4—5 месцы.

Лепшым снайпэрам чэмпіянату зьяўляецца хакэістка «Рытма» Марына Русіна — 27 галоў. Цікава, што ў сярэднім за гульню чэмпіён забіваў па 6 мячоў, што для хакэя на траве — выдатныя паказчыкі.

І яшчэ адна навіна: 3 кастрычніка ў Брусэлі Міжнародная фэдэрацыя хакэя на траве на сваім чарговым кангрэсе будзе разглядаць пытаньне аб прыёме Беларусі пастаянным членам ФІХ. Ёсьць усе спадзяваньні, што рашэньне будзе станоўчым.

## НАВІНЫ ФУТБОЛА

6 тысяч гарадзенскіх заўзятараў сталі сьведкамі «расправы» менскага «Дынама» над мясцовым «Хімікам». Лідэр рэспубліканскага чэмпіянату правёў 5 галоў, а прапусьціў у сваю браму толькі адзін. Сумна было глядзець на нашых хлопцаў, якія бездапаможна перакідвалі мяч у надзеі прабіць моцную абарону менчукоў. Гэтае паражэньне адкінула «Хімік» з трэйцяга на сёмае мейсца. Есьць, аднак, шанц у гарадзенскіх футбалістаў выправіць сваё становішча ўжо ў бліжэйшым матчы, які адбудзецца 26 верасьня. Супернікам нашай каманды будзе віцебскі КІМ, які займае шостае мейсца.

Зусім дрэнна сёлета выступае лідзскі «Абутнік». Ен, дарэчы, дагэтуль у 9 гульнях ужо восем разоў атрымліваў «абаронкі». Не выпадкова лідзкая каманда знаходзіцца на перадапошнім 16-м мейсцы. Калі так будзе прадаўжацца, то ў наступным годзе прыйдзецца «Абутніку» разьвітацца зь першай лігай.

* * *

Толькі на адной сустрэчы маюць на сваім рахунку нацыяная і алімпійская зборні Беларусі. Вядома, гэта толькі пачатак. Прыемна, што сярод лепшых футбалістаў рэспублікі ёсьць і гарадзенцы Сяргей Гурэнка і Ігар Петрашэвіч. Апошні вельмі ўдала правёў гульню з алімпійцамі Малдовы і стаў аўтарам мяча, які прынёс перамогу беларусам. Дэбют у нацыянальнай камандзе С. Гурэнкі таксама прайшоў на «выдатна».

* * *

Першы міжнародны афіцыйны матч правёў гарадзенскі арбітр Казімір Знайдзінскі. Нядаўна ён выязджаў у Варшаву, дзе абслугоўваў гульню маладзёжных зборняў Польшчы і Даніі. Дагэтуль толькі менчук Вадзім Жук судзіў футбол на міжнародным узроўні. Цікава, што і Жук — наш зямляк, ён нарадзіўся і вырас у мястэчку Мір Карэліцкага раёна.

**І. НАВАДВОРСКІ.**

**Затурканы савецкі народ пакрысе разьняволіўся й болей не баіцца мець нестандартныя думкі, пачуцьці, жаданьні, не баіцца выказаць іх, не баіцца кпінаў... Мы прызвачаіліся ўжо да самых разнастайных газэтных абвестак: куплю, прадам, пазнаёмлюся, але ўсё ж часам цікава пачытаць менавіта абвесткі, якія, пасьля крымінальнай хронікі, лічацца самым папулярным чытвом...**

# ДАПАМАЖЫЦЕ АЖАНІЦЦА З ЗАМЕЖНІЦАЙ!..

### КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ Ў АБВЕСТКАХ

**ПАСЛУГІ**

«Мне 21 год. Я папросту нармалёвы хлопец й хачу зарабіць шмат грошай. Гатовы выконваць любыя даручэньні й працу, але за вялікую аплату».

«Інтэлігентная прывабная дзяўчына 26/173/59 выканае разнастайную працу ў хаце... Тэл...».

«Я зьяўляюся магістрам чорнай і белай магіі, прапаную завочнае навучаньне старажытным мудрасьцям, папярэдне атрымаўшы клятву не ўжываць атрыманыя веды на ліха».

«Да ўвагі бізнесмэнаў! Усяго за 100 рублёў (7 руб. на старыя цэны) дашлю кожнаму ахвотнаму ўнікальны прапрыймальніцкі супэрдапаможнік «Мільён — за месяц». Панове! Не страцьце гэты — падораны лёсам шанц!..».

«Выводжу каменьчыкі з жоўцевага пузыра ўсяго за 30 гадзін».

«Вызначу час запачацьця дзіцяці пажаданага вам полу па датах нараджэньня мужа і жонкі. Кошт паслугі — 5 рублёў».

«Тэрмінова патрабуецца дапамога «белага» ведзьмака! Вярніце сына бацьку. Неўзабаве споўніцца год, як ён толькі зрэдку наведваецца ў госьці...».

«Прапаную ўнікальныя магічныя замовы на ўсе выпадкі жыцьця: для прычараваньня ўлюбёнага (улюбёнай) і г. д. Цана адной замовы — 100 рублёў».

**КВАТЭРЫ**

«Прапаную на 1,5—2 гады аднапакаёвую кватэру ў Крыме наўзамен за працу за мяжой для маладой сямейнай пары».

«Прадам дамок каля мора. Крым, Фэадосія. 700 мэтраў ад мора. Аплата ў СКВ або ў рублёх па курсу».

**ПРАДАМ**

«Айчынны тэлефон (з вызначальнікам нумара абанэнта, гадзіньнікі, аўтадазвоншчык, памяць на 96 нумароў, 2 буднікі і г. д.)».

«Кран КЖДЭ-16 1989 г. Куплю пнеўмаколавы грузапад ´ёмшчык 16—20 тон».

«Крымскія віны — за валюту, а таксама тэхналёгію прадукаваньня штучнай чорнай ікры».

**КУПЛЮ**

«Аўтамабілі ВАЗ-2101, 02, 03, 04, 05, 06, 07, 011, 013, пабітыя, разукамлектаваныя, згарэлыя, зьгнілыя, зь непрыемным пахам, без дакумэнтаў і г. д., незалежна ад года выпуску».

**ПАЗНАЁМЛЮСЯ**

«Дапамажыце ажаніцца з замежніцай. Дашліце адрасы шлюбных кантораў, якія дапамагаюць у пошуку замежных нявестаў».

«Украінец, культурыст, мастак. Шукае сімпатычную, спартоўскую дзяўчыну да 25 год, жыхарку ФРГ, Аўстрыі, Швэйцарыі, каб ажаніцца».

«Прашу напісаць мне дзяўчыну, якая ў 93-м годзе жадае выехаць у Ізраіль у якасьці жонкі і якая валодае ангійскай мовай».

«Зграбная каравокая шатэнка 18 год жадае знайсьці сяброў у Турцыі».

«Цікавы, сэксуальна не заклапочаны мужчына 185/90/29, пазнаёміцца зь пяшчотнай спадарыняй разумнага веку, магчыма замежніцай, дзеля супольнага адпачынку на поўдні».

«Жанчына 60 год звычайнага аблічча пазнаёміцца з мужчынам 60—65 год, лепей яўрэйскай нацыянальнасьці, які мае пачуцьцё гумару».

«Марына. Пазнаёмлюся з інтэлігэнтным хлопцам з атлетычнай паставай».

«Самотная жанчына няпэўнай нацыянальнасьці пазнаёміцца з замежнікам (апроч СНД)».

«Разьведзены рамантык. Дзяцей няма. Знаходжуся пакуль у месцах пазбаўленьня волі. Сядзець засталося 18 месяцаў...».

«Пазнаёмлюся з жанчынай-музыкай (клясічная гітара) з разьвітых капкраін, якая жадае мець сяброўку-аднадумцу».

«Пазнаёмлюся з усімі дзяўчатамі, якія самотныя ў свае 16, 18 гадоў».

**РОЗНАЕ**

«Шукае мэцэната. Прэзідэнту Італьянскай Рэспублікі або члену ўрада прадам 6 тысяч кніг на 51 мове сьвету па тэме «Піза: людзі, горад, вежа», прызначэньнем Пізанскаму унівэрсітэту. Цэны італьянскія. Аплата — мэдыкамэнтамі дзецям Чарнобыля».

«Прадам альбом з трыма выпускамі «Мааізм-ідэйны і палітычны працаўнік марксізма-ленінізма».

«Шукаем былых амэрыканскіх ваеннапалонных, якія ваявалі ў Паўднёвай Карэі й зараз жывуць на тэрыторыі СНД. За кожнага чалавека аплата 50 тысяч рублёў».

**АПОШНІ АБЗАЦ:** Як бачыце, вельмі распаўсюджаны сёньня ўсялякія «чарадзейскія» паслугі, настойліва, нават нахабна прапануюцца розныя сумнеўныя дапаможнікі дзеля таго, каб зарабіць мільён або нават 10 тысяч даляраў... Шлюбныя аб ´явы таксама мовяць самі за сябе. Асабліва шмат ахвотных зьехаць у Ізраіль або «разьвітыя капкраіны». Часьцей друкуюцца пад гэтай рубрыкай рускія, яўрэі, украінцы, часам рускія немцы. Беларусы з-за сваёй стрыманасьці (балцкая кроў!) у пачуцьцях або не карыстаюцца шлюбнай рубрыкай зусім, або не ўказываюць нацыянальнасьці (нястача патрыятызму). Хіба такая абвестка: «Праводзім папярэдні запіс на шчанюкоў эрдэль-тэр ´ера ад лепшых кабялёў Рэспублікі Беларусь»...

**Аглядальнік абвестак.**



**Фота А. Уладасевіча.**

## СРЭБНЫ НЯМЕЦКІ ГУЛЬДЭН І 18 ГРАМАЎ ЗОЛАТА...

***У Лідзкім краязнаўчым музэі адбыўся напад на кусташа. Два маладзёны зьвярнуліся да яго па дапамогу. Яны нібы хацелі высьветліць у манетным каталозе ўсе зьвесткі аб сярэдневечным срэбным нямецкім гульдэне, які прынеслі з сабой. Калі супрацоўнік музэю схіліўся над кнігай, яму ў твар пырснулі з газбалёніка. Будучы былым вайскоўцам, ён пасьпеў зрэагаваць і клікнуць дапамогу.***

***Міліцыя прыбыла вельмі хутка, але нападнікі ўжо зьніклі, пакінуўшы нават свой гульдэн. Памяшканьне праветрылі. Аднавіўшы ў памяці хаду падзеяў, супрацоўнікі музэю прыйшлі да высновы, што злодзеі меліся скрасьці з газэтнай вітрыны, апроч іншых вайсковых узнагародаў, ордэн Леніна. Як вядома, ён каштуе 25 тысячаў рублёў, бо зроблены з золата выява Ільліча важыць 18 грамаў. Як высьветлілася, нападнікі прымерваліся да крадзяжу, наведаўшы музэй у папярэднія два дні. Дарэчы, у той жа дзень адбыўся яшчэ адзін напад з газ-балёнікам у адным са складзкіх памяшканьняў горада.***

***Крадзеж не адбыўся, але ў выніку нападу злодзеі выцялі сп. кусташу твар. Каб зьменшыць магчымасьць падобнага здарэньня ў будучыні, у музэі адбылася зьмена расклада працы. Раней у супрацоўнікаў быў адзін агульны выхадны дзень — панядзелак. У суботу і нядзелю на абодвух паверхах музэю дзяжурылі ўсяго па адным супрацоўніку, што, як бачым, мела небясьпечныя вынікі. Цяпер, апроч панядзелка, музэй будзе зачынены і ў нядзелю.***

***Бр. ЛЮБАВІЧ.***

## ЗНАХОДКА АНГЛІЧАНКІ

***Як ужо паведамляла «Пагоня», у мястэчку Астрына Шчучынскага раёна вяліся раскопкі старажытных селішчаў, у якіх бралі ўдзел студэнты міжнароднага гісторыка-археалягічнага лягера, які дзейнічаў на базе Гарадзенскага дзяржаўнага ўнівэрсітэта. І прычым, небясьпяхова. Так, Кэт Дзігін з Англіі знайшла сапраўдны склад зброі — дваццаць аканечнікаў стрэл, якія праляжалі ў зямлі каля дзевяці стагодзьдзяў.***

***Т. М.***

**Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд «Бацькаўшчына».**

**Наша газэта ёсьць БЕЛАРУСКАЙ ТРЫБУНАЙ, адкрытай для выказваньня розных пунктаў гледжаньня, розных аўтараў зь любых краін, гарадоў і вёсак. Меркаваньні аўтараў публікацый не заўсёды могуць супадаць зь меркаваньнем рэдакцыі.**

**Адрас рэдакцыі: 230023, г. Горадня, вул. Дамініканская, 1.**
**Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.**

**Рэдактар С. АСТРАЎЦОЎ.**
**Індэкс 63124.**
**Выходзіць штодватыдні па пятніцах.**
**Фотанабор, афсэтны друк.**
**Гарадзенская вабласная ўзбуйненая друкарня, 230003, г. Горадня, вул. Паліграфістаў, 4**
**Тыраж 2000 асобнікаў. Замова № 3908**
**Нумар падпісаны да друку 24.09. 1992 г. у 17.00.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012